Калісьці меркаванне пра асобу можна было скласці па яе адказе на пытанне: «Хто твой кумір сярод паэтаў?» У эпоху высокіх тэхналогій многія лічаць: вершам увогуле няма месца, для іх не засталося часу.

Але ёсць і тыя, каго пытанне «Ці патрэбна паэзія сёння?» здзіўляе, бо для іх паэзія — форма ўспрымання жыцця. Дар'я Дарошка і Уладзімір Чараухін, якія чуюць подых цішыні, ствараюць у вершах такі сусвет, што ўзнікае думка: у гонцы за матэрыяльнымі здабыткамі, пазбаўленыя паэзіі, мы абдзяляем, абкрадваем, абядняем сябе...

Прырода нарадзіла нашы душы падобнымі на музычныя інструменты. З маленства жыццёвая прастора для нас — напоены гукамі космас. З гадамі гэты рэзанатар грубее — струны таўсцеюць, — і мы ўжо не здольныя чуць у наваколлі тонкія мелодыі, не кажучы ўжо пра тое, каб імкнуцца самім ствараць іх.

Для тых, хто звыкся да грубасці і фальшу, і гучаць шлягеры, у якіх няма паэзіі і музыкі, плодзяцца шэрыя дэтэктывы, кінастужкі.

Вытокі шматколернага свету Дар'і і Уладзіміра ў чулым спасціжэнні жыцця, дзе кожны гук — каштоўнае імгненне: носьбіт інфармацыі, колеру, пачуццяў...

Упэўнены, беларуская мова імі абрана зусім невыпадкова. І не толькі з мэтай нагадаць нашы генетычныя, старажытныя вытокі, унесці ўклад у адраджэнне радавой еднасці. Павага аўтараў да спадчыны продкаў праступае і ў выявах, дзе адбываецца асэнсаванне гісторыі айчыны, былін, легенд беларускага народа, і ў беражлівым стаўленні да роднай мовы, сродкамі якой ствараецца прывабная напеўнасць, аўра паэтычнага сусвету. Іх вобразы — сінтэз сэнсу і мелодыі.

Паэты выцягнулі з куфраў словы нашых продкаў, якія зіхацяць у паэтычнай прасторы, як бурштын.

Цьмянеюць ураджанні аб дыспутах пра самастойнасць беларускай мовы; не пабаюся пафасных высноў: чытача, працятага мілагучнасцю, спакваля напаўняе гонар дачынення да краіны і народа, які стварыў такую прыгожую мову.

Беражлівыя адносіны да роднай мовы родняць аўтараў, але не абязлічваюць іх. У паэтычных выявах выразна праяўляюцца жаночая і мужчынская існасці, што надае непаўторныя адценні пачуццям, уласцівым кожнаму ў авалоданні жыццём. Пульсуюць розныя характары, ззяюць эмацыйныя палітры...

У тых, хто гаворыць душой, свая філасофія. Чуллівая і ўсхваляваная, гэтая філасофія — абярэг жыцця, дзе і радасць, і боль зямны.

Дар'я і Уладзімір заўсёды ў дыялогу — ён нібы падмурак у будаўніцтве Альтанкі — яна паўстае, быццам Храм духоўнага і рамантычнага светаразумення, дзе зіхаціць сэрца свету, агортвае захапленне жыццём.

Здзіўляе і зачароўвае: у гэтым спасціжэнні быцця навобмацак няма месца нудоце і засмучэнню. Святланосная паэзія, празаічныя карціны, праніклёныя думкі на прыпынках, вясёлкавыя вершы для дзяцей — усё гэта промнямі кранае сэрца, абуджае веру ў несмяротнае каханне, у тое, што ў кожным чалавеку сонца, — дораць радасць і надзею.

І прыходзіць разуменне: каб гэтае хараство не згасала, абуджайце паэзіяй трапяткія адносіны да кожнага імгнення жыцця, адно да аднаго.

*Алег АНАНЬЕЎ,*
*член Саюза пісьменнікаў Беларусі,*
*Беларускага саюза мастакоў, паэт, мастацтвазнаўца*



Нарадзіла ноч завею —
Быццам з белай мроі шаль
У дзікунскім захапленні
Разарвала, як паркаль.

Доўга трызніла, гукала,
Бы вядзьмарка, у бары.
І з вятрамі танцавала
Вальс шаленства да зары.

*2001*



Ізноў памылілася. Я меркавала,
Каханню твайму і ста зім будзе мала,
Каб згасла яно. А што адбылося? —
Памерла каханне у першую ж восень.

*2001*



Небаракі-пачуцці — ў палоне развагі
На ланцуг пасадзіла нас прага павагі.
Мы залежым ад чутак, наш бог — пагалоска.
Меркаванне натоўпу даводзім да лоску.
Я такі, як таго патрабуе акруга,
Ды чамусьці не маю сапраўднага друга.

*2001*



Не буду аб каханні гаварыць,
Таму што ты аддаўся захапленню
Той Зоркай Зла, халоднай зоркай-ценем
Усіх, хто цьмяна, без цяпла мігціць.

Сваё імкнешся сэрца ашукаць,
Але ў зімовым ясна-золкім свеце
Растануць цені, і ў наступным леце,
Як зорку, будзеш ты мяне шукаць.

*2002*



Свет багацейшы на адно каханне
Зрабіўся з тае самае пары,
Як запрасіў мяне ты на спатканне
У лістападна-снежаньскім двары.

Нам зоркі з неба падалі ў далоні.
Спаўняліся жаданні, нібы ў сне.
У шчасця чалавечага ў палоне,
Спыніўшы час, ціхутка сыпаў снег.

*2002*



Расквітнелі хмары громам і маланкай!
Гэта я смяюся, ці — вакханка?
Вінаград ды зоркі — гронкавая млявасць.
Паміж сном і марай напаткала сталасць.

Ноччу на планеце сонечнага раю
Залатую поўню п'ю да дна я.
Ведаю, што хутка ад жыцця стамлюся
І дамоў, да сонца, ветрыкам вярнуся.

*2004*



Абарыгены летняе пары —
Бязлітасныя, злыя камары.
Абарыгены, кажаш, з'елі Кука? —
Яму ўжо што? Вось нам штолета — мука!
П'юць кроў, звіняць, шалеюць да зары —
Прычына скрухі нашай — камары.

*2004*

## Капрыз

Вось вазьму я свой хатуль
І пайду за небакрай.
Усміхнецца мне адтуль
Сонечна-зялёны май.

У далоні пляскаць дождж,
Выклікаць вясну на біс
Будзе ў месячную ноч...
Вось такі ён — мой капрыз!

*2005*



Бывае, што на мове беларускай
Мне бачацца шматколерныя сны.
Стракатыя, як у цыганкі хустка.
Салодкія, як водары вясны.
Яны вядуць туды, дзе толькі Слова
Жыве спрадвеку ў радасці зямной.
У свеце залюстроўя наша мова —
Не небарака з торбай за спіной.

*2005*



*Бабулі*

Дамоў, па полі, баразной...
Душа ад болю пасівела.
Спаць соладка — у снезе белым.
І хусткай — німб над галавой.

*2005*



Душу сваю імкнёмся ўратаваць
Ад зла, спакус і позіркаў нядобрых.
Гадуем, як спагадлівая маці —
Дзіця сваё, у радасці і ў горы.
Выхоўваем. І кожны дзень і год
Вядзём яе да сонца і да зорак.
Не ведаем, што ўсе наадварот:
Душа гадуе нас, як птушкі — мора,
Агромністую птушку глыбіні.
Шматкрылую-шматхвальную... Бясконца
Гудзе над ёю подых цішыні,
А пену-пер'е забаўляе сонца.

*2006*



Мой голас не чуваць над Сожам.
Мой колер не відаць у небе.
Я — птушка, і хоць мне нягожа,
Я мару аб надзённым хлебе.

Мой голас не чуваць? — Над Сожам!
Мой колер не відаць? — У небе!
Хто мае вочы — бачыць можа.
А каб адчуць — тут сэрца трэба.

*2006*



Жураўлі курлычуць, лёс свой клічуць...
Неўзабаве запалае снег
На сцяжынцы вечнай, быццам звычай,
На Шляху Птушыным, што паверх
Цягнецца вачэй і думак нашых.
Нешта мармытнуў сабе пад нос
Кот стары — напэўна, просіць кашы...
Снег уздоўж дарог, уздоўж палос...
Жураўлі курлычуць, лёс свой клічуць.
І ляцяць у вырай праз гады
Па сцяжынцы вечнай, быццам звычай,
Быццам свет, стары і малады.

*2007*



Збаёдалі час на пакутлівы выбар:
Ці жыць, ці не жыць? Ды не вырашыць нам,
Бо выбар не зробіш, і гэта — наш выбар,
І наш паратунак, і наша віна.

Не верылі ў сонца — зняважылі цемру.
Адрынулі холад — згубілі цяпло.
Зракаліся скепсісу — страцілі веру.
Здавалася, «будзе», а выйшла — «было».

*2007*



Калі ўжо ўсё закончыцца,
Калі ўжо ўсё адбудзецца,
І вершы ўсе напішуцца,
І мары адцвітуць,
Напэўна, нам захочацца
Хоць крышку замарудзіцца
І нават неяк сцішыцца,
Каб затрымацца тут.

*2007*



Развітання стомлены сабака,
Што скуголіць вечна між людзьмі,
Чулых слоў чакае, небарака,
Слоў спагады, ласкі, дабрыні.
Хвосцікам віляе, ліжа рукі,
Заглядае ў вочы праз гады.
І смугою развітальнай мукі
Поўняцца дамы і гарады.

*2007*



У лістападным карагодзе
Мінулых дзён
Ты ўсё шукаў і не знаходзіў
Мой даўні сон.

Было там добра, вельмі цёпла
Табе і мне —
У гэтым дзіўным і прыгожым
Адзіным сне.
Руды кілім чакае страты:
Гарыць агонь.
І, зачапіўшыся за краты,
Цікуе сон
Цябе, самотнага ў натоўпе,
У цішыні,
Што так сумуе па каханні
І цеплыні.

*2007*



А я жадаю ў адзіноце
Блукаць па зацішку алей.
У восеньскай яскравай цноце
Ісці праз сонца ўсё далей...
Успамінаць аб тым, што будзе,
Калі адыдзе лістапад.
І марыць аб надзённым цудзе,
Не пазіраючы назад.
Звяртацца да Таго, Хто ў свеце.
Звяртацца да Таго, з Кім свет...
І маляваць, што сніцца дзецям
На самай восеньскай з планет.

*2007*



Яблык спелы, працяты сонцам,
Закаханым ва ўвесь Сусвет,
Па глыточку, да сэрца, да донца
Вып'еш як паратунак ад бед.

І мінецца часіна знямогі,
І вясёлкі пачуеш уздых.
Гэта вабіць у далеч дарогі
Самы сонечны, яблычны міг!

*2007*



Свету ў кішэні занадта ўжо цесна,
Просіцца свет мой на волю, у песню.
Хочацца свету спазнаць краявіды,
Толькі навокал калючыя дзіды
Вечна трапляюцца неспадзявана.
Свет мой навобмацак сунецца ў ранак.
Як прыгаломшаны, сонца цікуе...
Болей ніколі не буду ўбаку я
Ад першаіснага неўтаймавання
Сонечных промняў і шчасця кахання!

*2008*



Іісус — вялікае дзіця,
З тых, што ўлетку басанож па лужах
З сонечных арэляў небыцця
Тупаюць у восеньскія сцюжы.
А дарослым і не зразумець,
Чым жа вабіць брудная вадзіца?
І звініць прарэзлівая медзь
Вокрыкаў бацькоўскіх, ды скарыцца
Не спяшае вольная дзятва —
Ходзіць па вадзе святое племя.

*2009*



Жывыя мы жніўнямі,
Ліўнямі сінімі дыхаем мы.
Зоркамі з неба, міглівымі, верым мы, марым мы.
Сонцамі летнімі, чулымі, мілымі крочым мы.
За небасхілам схаванымі мроямі снім.

Шчасцімся ветрыкам і апельсінамі рыжымі
з рынка вакзальнага.
Цешымся берагам, белым сняжком
прыцярушаным.
І навальніцамі жоўта-мядовага колеру, спелымі,
спім...

*2009*

## Самота

Ніводнага гуку, ніводнага слова —
Накшталт адзіноты ў забытых замовах.
Ніводнага слова, ніводнага гуку,
Ніводнага позірку — цягнецца мука.
Здзяйсняецца кімсьці душы катаванне
Ад рання да скону, ад скону да рання.

*2009*



Мінулыя звычкі, мінулыя рыскі —
Усё, што бруіла, цяпер толькі нізка
Народжаных вершаў пра свет і жалобу.
І будуць камусьці яны даспадобы,
І будуць камусьці яны, як атрута —
Пранізлівым ветрам у восеньскі смутак.

*2009*



Сумуе сцяжынка
Па дотыку снегу,
Абдымках сумётаў
Пад шолах ялін,
Зімовай самоце,
Што дорыць нам снежань
У час, калі поўня

Звісае з галін.
Імкнецца дадолу
Скрозь лёс і яліны,
Дзіцячыя казкі,
Дзявочыя сны...
І коціцца поўня
Услед каляіне,
У вечным напрамку:
Насустрач вясне.

*2012*

## Вяртанне сонца

Верыцца-не-верыцца —
Сон жыццём абернецца.
А Зямля ўсё круціцца,
У міжзор’і кружыцца —
Прывітанне сэрца шле
Сонцу наўздагон.

Скрозь аблокі лёгкія
Сонца жаўтавокае
Пацалункі шчодрыя
І смяшынкі добрыя
Промнікамі-птушкамі
Ў наш вяртае сон!

Здані цемнавокія,
Спуджаныя крокамі

Сонца ў сэрцы-скарбніцы,
На ўзыходзе раніцы
Паслухмяным воблачкам
Знікнуць з гарадоў.

Сон зямны не скончыцца,
Нават будзе множыцца —
Верыце, ці верыце? —
Покі ўся не вернецца
Ў сэрца мармуровае
Першая любоў!

*2012*

## Ліпень

На старой шурпатай ліпе
Салаўём спявае ліпень!

*2013*



Нашто палохацца калюжы,
Даўно скаванай маразамі?
За вокнамі блукае сцюжа,
Платы будуючы між намі...

Нашто палохацца памылак,
Што трапілі ў нічыйны сшытак?..
Пад белым покрывам сняжынак —

У люстры ледзяным адбітак
Чыйгось жыцця...

*2013*

## Чароўнае кола

У светлым коле родных і сяброў
Утульна, цёпла, радасна і лёгка.
У карагодзе досвіткаў і сноў,
У танцы на паверхні свету крохкай
Яно абараняе ад зімы —
Ад ледзянога подыху навалы;
Ад груганоў унутранай турмы,
Што на пустэчы страху панавалі.
Чароўным колам агароджу свет:
Цяпер маёй любові дастаткова,
Каб ад зімы пазбавіць сто планет!
Мне дорыць сілы сонечнае кола
Маёй сям'і.

*2013*

## Надвячорак

На світанку ночы — на зыходзе дня —
Месячак пяшчотна цешыў кацяня:
Казытаў жывоцік, плямкі ўздоўж спіны,
Мармытаў ледзь чутна між аблокаў сны,

Баяў сон пра татку — добрага ката,
Размалёўваў казку ў колер малака.
Я сяброў частую цёплым малаком,
Запрашаю шчасце ў мой утульны дом!

*2014*



З самага ранку скамечаны дзень,
Быццам сукенка з чырвонай фланелі...
Недзе пад поўняй згубіўся твой цень.
Што ты без ценю? — Дзіця без арэляў,
Шчасце без суму, бяссонны спакой,
Месяц без зорак, пярсцёнак без шлюбу,
Снежань без снегу і мова, якой
Слоў не хапае «каханы» і «любы».

*2014*

## Сапраўдны мужчына!

Месяц зорку абдымае
На прасціне неба сіняй.
Прыгажосць, аж дух займае!
Толькі хутка зорка згіне.
Будзе месяц у самоце
Цалаваць яе сястрычак —
Пагражаць іх зорнай цноце.

Месяц не мяняе звычак —
Сапраўдны мужчына!

*2014*

## Свет у падарунак

Ува мне віруюць сілы:
Да нябёсаў далятаю!
Ён такі добразычлівы —
Свет, які сама вярстаю!
На старонках ззяе месяц,
Ветрык ледзьве падзьмухае —
Міжрадкоўе ўсіх абвесціць:
Гэта я цябе кахаю!
Кожнай лужыне адбітак
Сонца дорыць шчыра, шчодра!
Новы дзень як фотаздымак,
На якім і ў дождж, і ў вёдра
Ззяе зорачка любові,
Мой агонь не патухае —
Паўтараю, бы ў замове:
«Гэта я цябе кахаю!»
А на вокладцы, пад назвай,
Там, дзе прозвішча паэта, —
«Не блазнуй, — замест адказу! —
Я цябе кахаю гэта»...

*2014*



Прывітанне, свет! Даўно не бачыліся.
Вокны вечным снегам зацярушаныя.
Я любіла свет, а зоркі страчваліся...
Зрэнкамі святло піла — прымушаная
Смагу лютую трываць трава пабляклая...
Вочы колер страцілі зялёны, зменлівы.
А галіны дрэва зараз воглыя —
Гэта плача неба хмараў бельмамі,
Што не бачна мне, як у блакітнасці
Ветрык зоркі калыхае-гойдае...
Просіць неба аб вялікай літасці
У таго, хто фарбамі валодае.

*2014*

## Фрустрацыя

Ізноўку развітальны тыдзень. З летам
Сам-насам я,
Гляджу ў блакіт уяўны
Нябёсаў шэрых.
Ізноўку свет губляе мары, мэты.
Дзе ж той маяк,
Што абнадзейваў спраўна
Чаўны і бераг?..

*2015*

## Не вучымся

У далячынь сыходзяць мары
І ў занядбанні паміраюць.
Па свеце Час блукае марна:
Не вучымся, што б ён ні раіў.
Куфэрак чалавечых сэрцаў
Пафарбаваны ў колер ночы.
У ім схавана прага смерці,
Як у кітайскім тамагочы.
Гучаць сюіты, вершы, стрэлы...
Лятаюць птушкі і гранаты.
Мы апранаем наша цела
У лепшую кашулю брата.
Нібыта прагнем пакарання
І набліжаем час расплаты.
А будзе новае світанне —
Ізноў узнімем меч на брата.

*2015*

## Вечнае каханне

Калі каханню ў змрочны час
Употай адрываюць крылы,
Бо ў сэрцы смутак і адчай,
Бо верыць не стае ўжо сілы,
Тады каханне, нібы ў сне,
Вяртаецца да сонца марыць

Аб новай радаснай вясне,
Аб новым зоркавым абшары.
І новы здарыцца Сусвет,
І новы будзе дзень і месяц,
Калі раптоўна новы свет
Каханне новае абвесціць.

*2015*

## Хоку

Вейкі твае —
Матылькі пад далонямі.
Даверлівасць.

*2015*



Гнуткая галінка з ветрам танцавала.
Ён яе гулліва, дзёрзка цалаваў.
Пацалункаў ветру падалося мала,
І таму галінку промень казытаў.

Сонечны праменьчык з ветрам быў у згодзе —
Гэтыя гарэзы цешылі свой слых
Лямантам галінкі: «Годзе! Вой, ды годзе!»
Сонца пасміхалася, гледзячы на іх.

*2015*



Каханне — гэта чай з лімонам
І напамін пра цёплы шалік.
І дотык выпадкова-сонны
Пяшчотных вуснаў: суцяшальны,
Ласкавы рух душы насустрач.
І мармытанне: «Усё будзе...»
І валасоў духмяных футра.
І надзвычайна цёплы студзень...

*2016*

## Сон пра дождж

Ночку ўсю дажджынкі стукаюцца ў шыбу,
Неяк апантана скардзяцца на лёс:
Не знайшлі ў нябёсах залатую рыбу —
Тую, што калісьці бачылі ў мароз
Родныя сястрычкі, крохкія сняжынкі,
Што паснулі ўзімку пад маім акном...
— Ды навошта кропелькам залатая рыбка?
— Здзейсніць мару нашую пра гасцінны дом.
Вечна беспрытульныя, мы ляцім скрозь прыцемкі.
Стукаемся ў шыбіны, падаем на дол.
Прысвячаюць вершы нам нават злыя крытыкі,
Толькі ўсё адно ніхто не пакліча ў дом!
Расчыніла вокны я, адхіліла кветкі,
Працягнула дождж ыку цёплую далонь:

— Не крыўдуй! Заходзь ужо ў госці да паэткі.
Запрашаю шчыра ў свой найпрыгожы сон!

*2016*



Скуголіць вецер, сівы і змрочны.
Скавыча, вые на ўскрайку ночы.
Блукае зданню, віхурыць, сыпле.
Дурны, самотны, зусім асіплы.
Такі нервовы, амаль шалёны!
Халодны вецер, на смак салёны...

*2016*

## Кляновая восень

Прачнулася — восень! Нарэшце блукае
У горадзе ціхім даверлівым Каем.
Няветлівым, добрым, бязрадасным Каем
У горадзе восень клянова блукае.
Клянова блукае, ступае клянова.
Далонькамі клёнаў трапляе пад колы.
У горадзе восень, і холад, і вечар.
І клёны ўтрапёна ўглядаюцца ў вечнасць...

*2016*

## Апытанка

— Якога колеру нябёсы,
Мне, калі ласка, раскажы?
— Сама не бачыш? — Ды не, проста
Аб колеры тваёй душы
Даведацца хачу...

*2016*



Я цябе не бачыла так доўга,
Што ўжо нават адпусціла крыўда.
Ды няўжо ж бясконцая дарога,
На якой ты намалюеш крэйдай:
«Кахаю!»?..

*2017*

## Гердам

Люты малюе ружы
На занямоглых шыбах,
Вецер па вулках кружыць,
З гурбаў фармуе німбы
Для пасівелых зданяў,
Што па зямлі блукаюць,
Марачы пра спатканне
З вечна самотным Каем.
Герды з адданым сэрцам

На ледзяных дарогах,
Знайце: асклепак шкельца —
Гэта не так і многа.
Не даспадобы Каю
Чырвань пяшчотных ружаў!
Люты яго гукае,
Шэрань, мароз і сцюжа.

*2017*



Не трэба істэрычных вершаў
Ні пра каханне, ні пра змрок.
Не трэба! Кожны промень — першы.
Не пагасіце незнарок
Святла вачэй, душы і зорак,
Ні самых простых ліхтароў.
Не трэба меладрам пра гора,
Пра слёзы сэрца ды пра кроў.
Спявайце радасць, грайце шчасце,
І хай святлее за вакном!
Не трэба змрочным словам засціць
Сцяжыну лёсу ў родны дом!

*2017*

## Экспромт

Мае самотныя часіны
Знайшлі спакой у сэрцы свету.
Не адракуся, не адрыну
Ні сонца, ні святло, ні лета.
Я веру, будзе след зімовы
Цягнуцца радасна, бадзёра.
І будуць пра каханне словы,
І будуць вочы як азёры
Ад немагчымасці спасцігнуць
Шчаслівае шаленства зорак
Тваіх вачэй.

*2017*



Зіма ў Беларусі маўклівая, ціхая.
Пухлява-пяшчотная, снежная зімка.
Агеньчыкі ў вокнах даверліва зыркаюць,
Глядзяцца ў віхурна-марозную зыбку,
Дзе securely новаароджаны Годзік гайдаецца,
А Час увесь час яму ціха ўсміхаецца.

*2017*

# Дзень нараджэння

Сантыметрах у дваццаці ад левага локця, амаль ля самага краю стала, астывала кава. Не ў кубку, а ў лужынцы. Добра яшчэ, што на тэлефон не трапіла. Выціраць было лянотна. Вераніка сядзела, утаропіўшыся невідушчымі вачыма ў манітор кампа, і самазабыўна аддавалася мізантропіі, апантана барабанячы пальцамі па клаве. Ліст быў да Жэнькі. Ярасны, пакрыўджаны і выкрывальны, то-бок з пераходам на асобы. Дзень нараджэння быў учора, а сёння Вераніка знаходзілася ў змрочным настроі з прычыны павальнага абжорства сам-насам з любімай кошкай і адсутнасці віншаванняў ад яшчэ больш любімых цяпер сяброў.

Больш не дам табе пячэння.
І радкоў не прысвячу!
Мой калі Дзень нараджэння? —
Я цябе спытаць хачу.

Я чакала цэлы вечар
Ад каханага званка.
Дагаралі ціха свечкі,
Мерзлі ногі і рука.

Я надзьмулася надоўга.
Даравання не прасі!
Над тваёй сюды дарогай
Змрочны дожджычак імжыць.

Скончыўшы набіваць тэкст, дзяўчына помсліва пстрыкнула мышкай і мэтаскіравалася на кухню за анучкай, каб усё-ткі прыбраць лужу.

Кошка, як зазвычай, падпільноўвала за вуглом. Ухіліцца, як і заўсёды, не атрымалася. Чорненькая важкая бомбачка, прабачце, маланка, якая ляціць у паветры, удар усімі чатырма лапамі ў грудзі — і тупаценне цвёрдых лап па звонкіх маснічынах, што імкліва аддаляецца ў глыб кватэры. «Тузік, блін! Дзіва ты маё найдзівоснае!» — раўнула ахвяра ўслед знікаючаму за вуглом коткінаму азадку з азартна задзёртым хвастом. Што яшчэ за Тузік і чаму Тузік? Хо! Як я люблю ірваць шаблоны сваім знаёмым! Адзін раз у чалавека, які ўпершыню апынуўся ў маёй кватэры, з гучным трэскам ірвецца шаблон, калі я голасна клічу: «Тузік, Тузі-і-ік!» — а на мой голас бяжыць чорнае кашэчае стварэнне. Другі раз шаблон трашчыць, калі я гладжу жывёлінку па поўстцы ды прыгаворваю: «А ты мая харо-ошая!» Ах, гэта не сабака, а кот, ды яшчэ не хлопчык, а дзяўчынка! А адкуль жа тады «Тузік» узялося? І я на гэта з задаволенай усмешачкай шчыра тлумачу разгубленаму госцю, што Тузік — гэта мой аўтарскі скарот ад Таіскі, Таісы.

Ледзьве толькі Вераніка паспела дабрацца да кухні, як затрызвоніў тэлефон. На хаду прыхапіўшы анучу, дзяўчына парысіла ў спальню.

Счакала, пакуль адгучыць дзевяць вінаватых званкоў, парывіста схапіла слухаўку і, як мага халадней і стрыманей, адчаканіла сакраментальнае:

— Ало.

— Прывітанне, мая радасць! Прывітанне, маё сонца! — голас Жэнькі выпраменьваў такую мядовую ласкавасць, што Вераніцы закарцела згарнуцца калачыкам проста ля тэлефона і завуркатаць. Але яна не паддалася гэтаму дэмаралізуючаму ўплыву.

— Ах, сонца! Ах, радасць? А калі дзень нараджэння тваёй радасці, ты забыўся?

— Нікуш, ты чаго? На каляндар паглядзі! У цябе ж сёння Дзень нараджэння.

— Так? Ну табе, канешне, больш вядома, толькі мне мама апавядала, што трынаццатага мяне нарадзіла, у пятніцу...

— Дык сёння ж і ёсць трынаццатага!

— ...

— Вой!.. Зайка мая, віншую, сонца! Вось, блін! Выбачай, спадарыня, злітуйся над бэйбусам, што прасціраецца ля ног тваіх!

— Ха! Цяпер ты так лёгка не выкруцішся! Будзеш у пакаранне штодня на працягу года атрымліваць па пошце вершыкі ад мяне!

— О, малю, толькі не гэта! Ладна, — раптам пасур'ёзнеў Жэнька, — раз ужо такая накладка выйшла, чакай мяне праз паўтары гадзіны. Будзем святкаваць.

— А як?.. — апошнія Жэнькавы словы прагучалі амаль ці не з пагрозай.

— Чакай. Пабачыш. — І павесіў слухаўку, гад!

— Ну, чакаю! — прабурчала Вераніка ў адказ на кароткія гудкі. — О, чорт! — выцерла нарэшце лужыну... Рукавом любімага пухнатага світара.

Дзвярны званок заверашчаў і заўлюлюкаў з вітальні якраз у той самы час, калі Вераніка намагалася ўлезці ў любімую Жэнькам аксамітную спадніцу. Спадніца была сіняя і вельмі шчыгульная, таму ўсцягнуць яго на раскормлены суцяшальнымі ласункамі арганізм аказалася нялёгкай задачай. Сяк-так разгладзіла прыемную навобмацак тканіну, сунула нагу ў адну з фіялетавых лодачак і, падчапіўшы пальцам другую, паскакала адчыняць. На апошнім падскоку скончыла з абуваннем і расчыніла дзверы, што бразгацелі ад набату. Жэнька з ухмылкай пераступіў парог і працягнуў дзяўчыне святочна загорнутую каробку.

— Гэта табе, мілая, прымі ад усяго сэрца, што правалілася ў пятку левай нагі пасля тваіх суровых паэтычных філіпік! Або Яўгенік?

— Не блазнуй! — тупнула абцасікам Вераніка. — Сам вінаваты!

— Як скажаш, дарагая, — Жэнька імгненна пераўвасобіўся і нават аддаў не надта штукарскі паклон.

— Ладна, праходзь, — Вераніка ўжо мірна шамацела бліскучай абгортачнай паперай, адмахваючыся ад цікаўнай пысачкі Тузіка. — Будзем торт лопаць, дакладней, тое, што ад яго пасля ўчарашняга засталося.

Хлопец падхапіў кошку, якая тут жа пачала выкручвацца з рук, шыкнуў: «Не какетнічай!» — і скіраваўся ў кухню. Тузік змікіціла, у якім кірунку валачэ яе выкрадальнік, і паслухмяна абвісла ў руках.

Усім сваім вабным нутром утульна вуркатаў халадзільнік, быццам вялікі белы кот. Ссадзіўшы кошку на падлогу, Жэнька павярнуўся да Веранікі. Тая разгублена перабірала цэлы абярэмак календароў, толькі што вызваленых з падаруначнай каробкі. Адрыўныя, насценныя, настольныя і кішэнныя — роўным лікам 22 штукі — усе яны былі на 2012 год. І на ўсіх была абведзеная фіялетавым маркерам адна-адзіная дата: 13 лістапада. Дзяўчына нейкі час няўцямна ўтаропілася на падарунак, а, потым, паволі павярнуўшы галаву, зірнула на Жэньку і жаласна прамовіла: «Жэнь, даруй, гэта я наблытала...» Апошнія яе словы патанулі ў какафоніі, што раптам усчалася: адначасова прачнуліся дамашні і мабільны тэлефоны. А званок у дзвярах наогул прымусіў падскочыць на месцы — гэта сябры прагнулі прынесці свае віншаванні з Днём нараджэння. «Але чым жа я іх цяпер карміць буду?» — устурбавана падумала Вераніка...

*2012*

## Шматгранная асоба

З Алегам я пазнаёмілася ўначы. На пероне. На фоне зорнага неба мігцеў агеньчык цыгарэты. Потым, імкліва апісаўшы дугу, знік недзе ўнізе. Быццам зорка з неба ўпала. «Хоць ты жаданне загадвай», — прамільгнула і выклікала ўсмешку гарэзлівая думка. Усмешка зляцела ў тое ж імгнен-

не, не пакінуўшы і следу, бо з цемры, паблісківаючы акулярамі, стала насоўвацца на мяне нешта велізнае і калматагрывае. Наблізіўшыся, Страшыдла звярнулася да мяне з рытарычным пытаннем: «Дзяўчына, не падкажаце, колькі часу?» Праўду мовіць, голас у Страшыдлы аказаўся непрыстойна-піскліывым, а пытанне зусім не рытарычным: яму насамрэч патрабаваўся адказ.

— Я гадзіннік не ўзяла, — не зманіла я: гадзінніка ў мяне не было, а лезці ў сумачку па смарцік не хацелася: Страшыдла не выклікала даверу.

— «Шчасліўцы на гадзіны не зважаюць», — прапішчалі ў адказ (Трэба ж! Яно намагалася завязаць гутарку). — Нешта цягніка доўга няма. А вы куды едзеце?

Я маўчала.

— Мяне Алегам клічуць.

— Ну і што? — шчыра здзівілася я.

— Алег Арсеньеў. Можа, чулі?

— Вядома (шкельцы акулярааў незнаёмца радасна бліснулі), не (шкельцы згаслі).

— Шкада...

— Мяне, што не ведаю вас? — мне стала цікава і захацелася пакпіць. Такое са мной час ад часу здараецца, калі Арсеньевы апоўначы на пероне імкнуцца выказаць душу. А ў тым, што Піскун збіраецца паспавядацца, я ўжо не сумнявалася.

— Дарма вы так, — чамусьці прабасіў Калматагрывы, і Піскун некуды выпарыўся, а на яго месцы

зніадкуль з’явіўся Леў — і працягнуў: «Я ж проста хацеў пагутарыць».

— Слухаю вас, шаноўны Леў, — ёрнічала я ўжо без аглядкі, пайшоўшы на повадзе ў свайго гарэзлівага асацыятыўнага мыслення.

— Адкуль вы ведаеце? — здзівіўся Леў, — я — леў па гараскопе. А вы?

— А я мурэна, — працягвала здзекавацца я.

— Марына, значыцца, — недачуўшы, задуменна паўтарыў Алег. — Вось і пазнаёміліся.

Цяпер ён гаварыў цалкам прымальным голасам, у якім усё больш выразна чуліся прафесарскія ноткі:

— Прастыў страшэнна. Тры дні кандыдацкую адзначалі...

— Віншую...

— Ды не маю, жонкі маёй. Яна ў мяне таксама біё-лаг, — апошняе слова ён вымавіў з яўнай ironіяй.

— Таксама? — я здзіўлена паглядзела на суразмоўцу.

— Так! Я — доктар біялагічных навук! Я вучоны, разумееце? Ажаніўся са сваёй былой студэнткай...

— І хацеў прымусіць яе супы варыць? — я чамусьці перайшла на «ты».

Біёлаг трохі збянтэжыўся:

— Ды не, проста я марыў пра сямейную ўтульнасць, ціхую гавань, — выдаў ён шаблонную фразу.

— Зразумела. Два Сонцы ў адной сістэме...

— Сапраўды! Менавіта так! Вы мяне зразумелі цалкам дакладна, — і, асцярожна дакрануўшыся да маёй рукі, спытаў:

— Марына, а вы замужам?

— Не, — схлусіла я, каб паглядзець, што будзе далей.

— А чым вы займаецеся?

— Я — філолаг, — прадчуваючы рэакцыю Ільва, я не зводзіла позірку са шкельцаў яго акуляраў. Яны патухлі, і я зразумела, што ён глядзіць сабе пад ногі.

— Ну вось чаму заўсёды так? — выпусціўшы мой локаць, адступіў ён на крок. — Чаму я не магу сустрэць нармальную дзяўчыну?! — мяне ўразіла, што ён пры гэтым быў абсалютна цвярозым. Як шкельцы ягоных акуляраў.

— Нармальную?

— Так! Нармальную, звычайную, ціхую, сціплую, дамашнюю, адданую! — Ён пачаў нервова расхаджваць узад-наперад па пероне і раптам, рэзка спыніўшыся, прамовіў, гледзячы на мяне ва ўпор: — Жонку генія! Разумееце?

— Разумею, толькі апоўначы на пероне вам наўрад ці сустрэнецца ціхая і дамашняя. Вы на міжнародны форум едзеце?

— Так, — біёлаг не хаваў свайго здзіўлення, — я шматгранная асоба...

— Дык вось, тут і да варажбіткі не хадзі, там вы таксама дамашніх і ціхіх не адшукаеце. Толькі дарэмна спадзяваецеся. Ды не адмахвайцеся, я ж ведаю, што спадзяваецеся.

Шыкоўная грыва, ледзь запратэставаўшы, ізноў улеглася на плечы, а Леў звяў. Каб яго хоць неяк падбадзёрыць, я прапанавала:

— А давай я табе зараз казк... анекдот раскажу? — і, не чакаючы адказу, стала і апавядаць, — Прыходзіць на прыём да псіхатэрапеўта маладыя чала...

— Што гэта?! — Леў раптоўна знік, а на яго месцы ізноў красаваўся Піскун.

Я прасачыла за ягоным указальным пальцам — той дрыжэў у кірунку сімпатычнай белай мызачкі, цікаўнага шустрага носіка і вусікаў, што паблісквалі ў халодным ззянні ліхтара (у маёй сумачцы ізноў разышлася «маланка»).

— Гэта? Пацучка. У адрозненне ад мяне, белая і пухнатая, — я пяшчотна пачухала жывёлінку за вушкам.

Святло ліхтара, канешне, скажала колеры, але, гатовая прысягнуць, біёлаг насамрэч спалатнеў.

— А вось і наш цягнік. У мяне другі вагон, а ў вас?

— ...Я, з-здаецца, кв-квіток забыў, дома пакінуў, — і Калматагрывага, Страшыдлы, Піскуна, Ільва, Біёлага і Алега — усіх шасцярых праглынула цемра, патрывожаная ляскатам і ззяннем надыходзячага цягніка...

*2006*

## Яйка ці... верабей?

Вераб’і цырыкалі на галінцы. Спосаб завязвання гальштука, элегантныя падскокі і манера цвыркаць, заміраючы на высокіх нотах, — усё паказвала на тое, што гэта не нейкія там вераб’і з гарадскіх сметніц, а высокаадукаваныя, духоўна развітыя вераб’і з вышэйшага свету. Абмяркоўвалі надзвычай актуальную тэму: што было раней — яйка ці верабей? Гутарка вялася ў суправаджэнні канцэрта Вівальдзі для чатырох скрыпак з аркестрам, што далятаў з акна дзіцячай музычнай школы насупраць.

— Тое, што першымі на Зямлі з’явіліся менавіта мы, вераб’і, ужо не выклікае сумніваў у навуковых колах, — аўтарытэтным тонам адкрыў дыскусію верабей ў цёмна-жоўтай манішцы, — і цяпер мы маем высветліць самае галоўнае: а што ж з’явілася раней — вераб’інае яйка ці сам верабей?

— Вераб’іха! — цвыркнуў з месца зусім яшчэ жаўтароты верабей з наіўна-смяшлівым позіркам.

Старэйшае пакаленне праігнаравала нахабніка.

Першым узяў слова, элегантна ўзмахнуўшы правым крыльцам, самавіты вераб’іны мэтр, які надзвычай ганарыўся сваім грасіруючым «р», але толькі рэдкім шчасліўцам шанцавала пачуць гэты чароўны экзатычны гук з ягонай дзюбы:

— Шаноўныя! Асабіста я лічу, што ўзнімаць гэтую тэму бессэнсоўна, бо мы сутыкнуліся з адным з тых выпадкаў у навуцы, калі немагчыма адшукаць

адназначны адказ. Некалькі пакаленняў нашых вучоных ужо намагаліся гэта здзейсніць...

— І тым не менш, — перапыніў «француза» верабей у жоўтай манішцы, — я настойваю на тым, што мы працуем напаўсілы, не выкарыстоўваючы ўсіх магчымасцяў нашага ўнікальнага мозгу. Давайце паслухаем нашага калегу, які нядаўна вярнуўся са злёту ў Англіі.

Усе ўхвальна зацырыкалі, просячы выступіць вытанчана-эмацыйнага, трохі экзальтаванага і млявага вераб'я, што нечым нагадваў ката.

— Вядома, што генетычны матэрыял, — манерна прачысціўшы горла, вымавіў прафесар, — нікольні не мяняецца на працягу жыцця птушкі, ад вылуплення да скону, значыцца першы верабей існаваў як эмбрыён у яйку. Арганізм, які выспявае ў сярэдзіне яечнай шкарлупіны, мае тую ж самую ДНК, што і верабей (птушаня), у якога ён потым пераўтвараецца. Такім чынам, — павісла шматзначная паўза, — першым усё ж такі было яйка! — урачыста скончыў «англічанін» сваю прамову.

Слухачы дружна заапладзіравалі.

І тут нечакана для ўсіх слова ўзяў малады верабей з жоўтай дзюбай і наіўна-смяшлівым позіркам. Ён грацыёзна ўспырхнуў на тонкую галінку-трыбуну і саманадзейна заявіў:

— Я цалкам згодны з вучоным калегам: першае птушаня несумніўна з'явілася з яйка. Нават пры ўмове, што гэтае яйка было пакладзена іншай разнавіднасцю пярнатых, напрыклад, курыцай, яно

ўсё роўна з’яўляецца яйкам вераб’я, таму што ў сярэдзіне яго — менавіта верабей.

На імгненне запанавала мёртвая цішыня. Потым пачуліся асобныя выкрыкі.

— Гэта нечуваная дзёрзкасць!

— Ігнараваць навуковыя аўтарытэты!

— Адмаўляць агульнапрынятыя дактрыны!

— Ерэтык! Першай птушкай на Зямлі быў верабей! Гэта аксіёма!

— Гнаць яго з навуковай супольнасці!

Але крыкі «Брава!» і «Геніяльна!», што даносіліся з расчыненага акна дзіцячай музычнай школы, заглушылі апошнія акорды вераб’інага саміту.

*2006*

## Прывітанне, Сонца!

«Прывітанне, Сонца!» — сказала я, рассоўваючы шторы, як рабіла гэта штораніцы. Але на гэты раз Сонца чамусьці прамаўчала. «Мусіць, пакрыўдзілася», — падумала я, і не памылілася: малако ў сподачку засталося нечапаным. «Кіс-кіс-кіс», — з надзеяй паклікала я і зазірнула пад ложак, але не знайшла там нічога, акрамя пары пухнатых тапцікаў з вялікімі ружовымі пампонамі. Мімаходзь праверыўшы іх на прадмет «запіскі» і абуўшыся, я старанна, але безвынікова абследавала гасцёўню, кухню і ў разгубленасці вярнулася ў спальню. Раптам мой позірк наткнуўся на прачыненыя дзверцы

шафы: з яе цёмных нетраў ва ўсе свае прамяністыя жоўтыя вочы на мяне пазіраў ярка-руды цуд. «Дык вось ты дзе!» — усклікнула я і падхапіла Сонца на рукі. Раптоўна жудаснае падазрэнне закралася ў маю душу, і я, расчыніўшы дзверцы шафы шырэй, уважліва агледзела яе змесціва. Але не, на гэты раз маё помслівае Сонца не адважылася на мокрую справу: у шафе было суха.

Сонейка, ласкава вуркочучы, церлася шчакой аб мае далоні. Настала раніца.

*2001*



Мара сышла па-ангельску: не развітваючыся. Сышла, нават не ляснуўшы дзвярыма. Мара пра яго абдымкі, яго пацалункі, яго каханне. А Надзея без Мары жыць не захацела: пайшла за ёй услед. І прыйшла Самота. Стомленая, змерзлая і без папярэдняга званка. Прыйшла як дадзенасць і ўселася на канапу: вось яна — я, накармі, абагрэй. Ну ўжо не! Не цябе я чакала так доўга з расчыненымі дзвярыма. Не для цябе цеплыню берагла ў азяблым сэрцы! Сыходзь. А не — я сыду. За Надзеяй услед. Даганю яе і пайду побач: новую Мару шукаць. Яшчэ прыгажэйшую, яшчэ лепшую, яшчэ болей безнадзейную, чым ранейшая.

*2002*

## Дыялог з Яно

— Хачу быць драконам.
— Навошта?
— Каб мець тры галавы.
— Навошта?
— Каб мець тры пары вачэй.
— Навошта?
— Каб мець магчымасць адначасова ціхамірна сузіраць, зацікаўлена сачыць і ўтрапёна ўглядацца...
— Навошта?
— Каб быць мудрым.

*2011*

## Несмяротная Любоў

Не жыла, але была Маленькая Смерць. Мама Вечнасць штораніцы заплятала ёй коску з вузенькай бліскучай стужкай і адпраўляла ў Школу, дзе вучыліся таксама Страх, Жах, Нахабства, Зайздрасць, Скваапнасць, Вера, Надзея, Любоў, Гордасць і іншыя вучні. Дзеці не любілі Смерць. Яны дражнілі яе і тузалі за коску. Нават выдатніцы Надзея і Вера не адставалі ад іншых, не слухаючыся мудрых парадаў мамы Соф'і. Адна Любоў не ўдзельнічала ў цкаванні Смерці. Яна наогул нікога не крыўдзіла. Вера ж проста ніяк не магла паверыць, што Смерць маглі прыняць у іх Школу, а Надзея вельмі

спадзявалася на тое, што настаўнік Жыццё, якому належала Школа, ніколі не выдасць Смерці атэстат. Нават Спачуванне ніколі не адчувала спачування да маленькай спалоханай Смерці.

Міналі гады, вучні вырасталі, і вось нарэшце надышла пара атрымання атэстатаў. Насуперак чаканням аднакласнікаў, Жыццё атэставала і Смерць нароўні з усімі і расчыніла дзверы сваёй Школы перад выпускнікамі. Ледзьве Смерць пакінула межы альма матар, яе маленькая дзіцячая коска з трохкутнай патрапанай істужкай ператварылася ў тоўстую касу з вострым пашчэрбленым лязом. Стала Смерць ля парога Школы Жыцця і стала чакаць сваіх былых аднакласнікаў, рыхтуючыся помсціць ім за ўвесь той боль, што яны ёй прынеслі. Усе насмешкі і крыўды прыгадвала ім Смерць, адпраўляючы кожнага да сваёй мамы Вечнасці. Апошняй са Школы Жыцця, у надзеі пазбегнуць расправы, выйшла Надзея. Але і яе спасцігла тая ж доля. Толькі Любові Смерць не стала помсціць: няма за што было. Так і стала Любоў несмяротнай.

*2013*

## Прыпавесць пра несмяротнасць

Калі Бог стварыў першых людзей, ён сабраў іх усіх разам і сказаў:

— Дзеці мае! Кожны з вас здольны жыць вечна, але толькі пры дзвюх умовах. Першае: ні разу не

пажадаць смерці ні сабе, ні іншаму ні на словах, ні ў думках.

— Але гэта немагчыма! — закрычалі першыя людзі.

— Я ведаю, — усміхнуўся Бог. — Такое нават мне не па сілах... Але ж шанец ёсць у кожнага.

— А якая ж другая ўмова, Ойча?! — яшчэ не асэнсаваўшы як след першую, закрычаў натоўп.

— О, пра гэта нават і казаць не варта! Гэта яшчэ больш невыканальна: трэба, каб ніхто і ніколі не пажадаў смерці вам.

Задумаліся людзі, прыціхлі, быццам прыціснутыя надмерным цяжарам. І вось, калі ўжо ўсе пачалі разыходзіцца, нейкі дзёрзкі смяльчак выгукнуў:

— Божа, але ж толькі што некалькі сотняў са злосці праклялі цябе, а ты ўсё адно будзеш жыць вечна!

— Правільна, — сумна ўсміхнуўся Бог, — багі вечныя.

— Але гэта несправядліва! — у запале выгукнуў той жа смяльчак.

— Я таксама так думаў. Калі быў чалавекам, — адказаў яму Бог.

*2011*

## У кожным чалавеку сонца...

Любая вайна — ад пагрому паганскіх капішчаў да вызваленчых — гэта злачынства. Злачынства супраць чалавека. На вайне гінуць не салдаты і генералы, не героі ды здраднікі — на вайне гінуць людзі, планеты, Сусветы... «У кожным чалавеку сонца, толькі дайце яму свяціць», — гаварыў Арыстоцель. Дык вось, на вайне паміраюць сонцы. Згасаюць свяцілы, знішчаюцца іскрынкі Бога ўнутры чалавека. І самае страшнае, што гэтыя іскрынкі згасаюць не ў забітых, не! — часцінкі Бога, сонца душ нашых навекі анігіліруюцца ў тых, хто забівае. Таму забойства — любое забойства! — гэта смяротны грэх. Смяротны для таго жывога агня, які ад нараджэння свеціць уначы кожнаму з нас. Купляючы свайму дзіцяці цацачны аўтамат, вы выхоўваеце ў ім будучага забойцу, не абаронцу, а забойцу, і перш за ўсё забойцу сонца ва ўласнай душы.

*2015*

## Скетч

Накіды водгулля заўчарашняга кактэйлю з радасных сноў, мігатлівага полымя свечкі і самотнага агеньчыка цыгарэты пад месяцовым небам у адкрытай фортцы.

Паспрабуй, намалюй сабе мару!..

*2013*

## Думкі на прыпынках

1. Рыфмаплёцтва не ў пашане,
   Лепш мятлой махаць уранні.
2. Любы боль тупы, нават калі ён востры.
3. Свая стрэмка баліць больш за чужы пералом.
4. Дзякуй, заяц! Ты сапраўдны ...воўк!
5. З казламі жыць — па-воўчы выць.
6. Нічога не мае значэння, акром святла... Жыццё — гэта казка, жыццё — гэта досвед, жыццё — гэта гульня. Усведамленне гэтага дае волю, цікавасць і радасць жыцця.
7. Змяняючы ўспрыманне свету, змяняеш і свет вакол сябе.
8. Калі намыліцца, то паголіцца. (Пра мэтанакіраванага чалавека.)
9. У бальнічны харчаблок завезлі часнок — з лабараторыі разбегліся ўсе лабаранткі...
10. Крыўдлівасць — самая крыўдная якасць.

11. Я і маё каханне — сіямскія двайняты, і калі нас раз'яднаць, то нехта абавязкова памрэ. Я не жадаю, каб гэта было каханне...

12. А вы што ж, думалі — Зямля круглая? Ха-ха-ха! Самі вы круглыя! Квадратная яна, квадратная! Ну вось, а то ходзіце з кута ў кут і ніяк зразумець не можаце, чаму ўвесь час адзін на аднаго натыкаецеся.

13. Не сунь мне пальцы ў колы!

14. Жыццё — гэта суаднясенне суб'ектыўных меркаванняў.

15. Жыць — значыць мыць золата. І тым болей у нас шанцаў адшукаць яго, чым больш мы прасеем пяску.

16. Ёсць такія людзі, якія не толькі думаюць адно, кажуць другое, а робяць трэцяе, але яшчэ і месцамі ўсё гэта ўвесь час мяняюць!

17. Пажаданне дызайнеру жаночага мадэльнага абутку ад жанчыны, якая вярнулася з моднай вечарынкі: а каб ты ў наступным жыцці быў жанчынай! А каб у цябе было дзесяць ног: чатыры левых і шэсць правых, і ўсе рознага памеру!

18. Чорная зайздрасць: хачу тое, што мае гэты чалавек! Белая зайздрасць: хачу такое ж!

19. Жыць на аддачу і верыць ва ўдачу.

20. Нарцыс так любіў сваё адлюстраванне таму, што яно, у адрозненне ад дзяўчатак, ніколі не ўнікала ад пацалункаў у вусны.

21. Пакахай мяне такой, якая я ёсць, і я стану лепей.

22. У баязліўца адсутнічае інтуіцыя: ён заўжды «прадчувае» небяспеку.

23. Паглядзела Васіліска злым паглядам васіліска...

24. Сапраўдная дабрыня неўсвядомленая. Чалавек толькі тады здзяйсняе сапраўды добры ўчынак, калі нават не ўсведамляе, што можна паступіць інакш.

25. Сумленне — гэта сапсаваны будзільнік, які заўсёды трызвоніць не ў пару.

26. Самыя жорсткія людзі — вернікі. Гэта яны прыдумалі пекла...

27. Мы ніколі не прачытаем кнігу мудраца. Ён папросту не стане марнаваць час на яе напісанне. Ісціна не мае патрэбу ў абгортачнай паперы.

28. Сны — гэта звалка ўяўлення. Трэба часцей вывозіць смецце.

29. Калі сыходзіць надзея, прыходзіць свабода.

30. Увесь свет — вайна, і людзі ў ім — вароны, што б'юцца дазвання за скібку хлеба.

31. Без сваёй маці Соф'і Надзея будзе баязлівай, Вера — недаверлівай, а Каханне — раўнівым.

32. Не спрабуйце ўвайсці ў тую ж раку: рызыкуеце апынуцца ў балоце.

33. Змушаць сябе да свабоды — пазбаўляць сябе яе!

34. Мы самі сабе геніі і самі сабе лайдакі — зусім не вецер прыносіць на планету геніяў пад выглядам восеньскага лісця...

35. Адзінота — гэта рай для багоў, недасяжны для простага смяротнага.

36. Самае важнае ў жыцці— гэта свабода ў творчасці і творчасць у лёсе.

37. Чым больш я даведваюся пра людзей, тым менш пачынаю баяцца павучкоў.

38. Неразгаданых сноў гірлянда аздабляе, як елку, памяць.

39. Нельга быць ранімай, інакш цябе абавязкова параняць. І параняць балюча.

40. Калі чалавек плача, гэта не прыкмета слабасці. Гэта прыкмета таго, што ў ім ёсць вада і дастаткова вітаміну А.

41. Не пазбаўляйце рабоў іх кайданоў: кайданы — адзінае, што дазваляе ім адчуць, што яны цвёрда стаяць на зямлі.

42. Бландзінкі — не дурніцы! Міф пра іх дурноту стварылі брунеткі, якія перафарбоўваюцца ў бландзінак і паводзяць сябе як дурніцы, каб нейтралізаваць канкурэнтак.

43. Самыя якасныя, найвышэйшага гатунку ворагі атрымліваюцца з самых адданых, самых найлепшых сяброў...

44. Пасля правядзення некаторых літаратурных мерапрыемстваў столь ў памяшканні даводзіцца шпакляваць нанова, настолькі глыбока яна бывае дэфармавана каронамі ўдзельнікаў.

45. У Сонца не бывае выходных. І калі мы яго не бачым, значыцца, яно... у камандзіроўцы.

46. Многім вернікам Бог патрэбны менавіта для таго, каб было на каго зваліць адказнасць за сваё жыццё.

47. Хто намагаецца падабацца ўсім, не можа быць прыемны нікому.

48. У веры, як і ў творчасці, неабходны талент. Бяздарнасць у рэлігіі гэткая ж агрэсіўная, як і бяздарнасць у паэзіі.

49. Калі зямля сыходзіць з-пад ног — паскор крок, таму што шарык пад тваімі нагамі закруціўся шпарчэй, а гэта азначае, што да мэты ты зараз здатны дайсці хутчэй, чым планаваў!

50. Мізантроп — гэта сусед, які кашляе ўначы ў мегафон.

51. Калі на цябе нізавошта крыўдзяцца, гэта крыўдзіць не менш, чым калі цябе нізавошта крыўдзяць.

52. Мы спрачаемся толькі да тае пары, пакуль сумняваемся ва ўласнай праваце, пакуль не да канца ўпэўнены ў правільнасці прынятых намі рашэнняў, створаных намі высноў, зробленых намі адкрыццяў. Ледзь толькі мы сцвярджаемся ва ўласным меркаванні, мы перастаём спрачацца.

53. Калі кахаеш чалавека па-сапраўднаму, то паважаеш кожнага прусака ў яго галаве.

54. Не спяшайцеся абурацца з наяўнасці плётак пра вас, не асуджайце тых, хто думае і гаворыць пра вас непрыстойныя рэчы, бо, калі вам ёсць справа да таго, што думаюць пра вас гэтыя людзі, значыцца

вам ёсць справа да таго, як яны жывуць. Ну і чым жа вы ад іх, у такім разе, адрозніваецеся?

55. Не ўсё тое карункі, што дзіравае.

56. Усё, што ні робіцца, робіцца з нудоты, з блаславення яе і ў імя яе.

57. Нядобразычлівая літаратурная крытыка мае тую ж прыроду, што і зласлівыя суседскія плёткі. Чужое жыццё асуджаюць тыя, каго не задавальняе ўласнае, а чужую творчасць — тыя, каму ўласная не надта ўдаецца.

58. Калі навакольныя дыягнастуюць у вас зорную хваробу, то, часцей за ўсё, індыкатарам ім служыць уласны комплекс непаўнавартаснасці...

59. Усё, што ў нас ёсць — гэта дарога. Аўтобусныя маршруты, чыгуначныя рэйкі, хуткасныя трасы... Нават лесвічны марш з першага паверху на дзявяты — гэта дарога. І так усё наша жыццё — дарога. Ды і што ж у сутнасці само жыццё, калі не дарога? Дарога Жыцця...

60. Казка, якая спраўдзілася быллю, зарастае бызьнягом.

61. Нічога не бывае позна. Усё і заўсёды своечасова, і гэтае «своечасова» — Зараз.

62. Калі мы цалкам згаджаемся з чалавекам, то тым самым даем яму нагоду ўсумніцца ў правільнасці ягоных поглядаў.

63. Каханне — гэта пацалунак у смаркаты нос, а не мільён пунсовых руж пад акном прыгажуні.

64. Брунетка — гэта бландзінка з вышэйшай адукацыяй.

65. Праблема сучаснага (ці толькі сучаснага?) свету (свету? А можа быць, пэўнага тыпу людзей?..) у тым, што разумныя інтэлігентныя людзі (а што значыць «разумныя», уласна кажучы? Ды і што ёсць так званая інтэлігентнасць? І ці не блытаем мы гэтую самую інтэлігентнасць з бесхарактарнасцю?..) поўныя розных дапушчэнняў і сумневаў, а ўсялякія самаўпэўненыя дылетанты і невукі нават і не сумняваюцца ва ўласных уяўленнях.

66. Паэзія радасці — паэзія для абраных. Яна не кожнаму аўтару і чытачу па душэўных сілах. Вось чаму такі папулярны вершаваны сум...

67. Спачатку я доўга-доўга шукала светлага чалавека... Потым вельмі доўга — разумнага... Потым, ужо не так доўга, — моцнага... А потым неяк раптоўна ўцяміла, што ўвесь гэты час знаходзілася побач з гэтымі людзьмі: вунь яны — у трэльяжы — усміхаюцца!..

68. А ці сваёй справай займаецца чалавек, кажучы мне, што я займаюся не сваёй справай?

69. Фальшываманетчыкі ўсмешак... Як вас зашмат!

70. Сініца — гэта акальцаваны журавель.

71. Эх, да чаго ж тужліва ўздыхаюць маснічыны, ледзь за сыходзячым зачыняюцца дзверы!.. Усё! Сцялю лінолеум!

72. Часам я вельмі шкадую, што ў нашай кватэры няма прусакоў: няма каго з чыстым сумленнем і беспакарана прыбіць.

73. Калі мы ставімся да чалавека дрэнна, значыць, мы дрэнна яго ведаем. Калі мы ставімся да чалавека добра, значыць, мы дрэнна яго ведаем. Калі мы добра ведаем чалавека, то мы або яго любім, або выкрэсліваем назаўсёды са свайго жыцця. Гэта значыць, у сутнасці, ужо ніяк да яго не ставімся.

74. Жаласлівасць — гэта зусім не сінонім дабрыні. Гэта індыкатар вашай уласнай фанабэрыстасці. Таму што вартых жалю людзей не бывае.

75. Часта незабудкі ў вершах — прыкмета няспеласці паэта.

76. І крапіве сонца дорыць пяшчоту!..

77. У любым канфлікце, калі, вядома, не дайшло да злачынства, няма правых і няма вінаватых: заўсёды — абое рабое.

78. Крыўдлівасць і ранімасць уласцівыя маладушным самаўлюбёным эгацэнтрыстам.

79. У сапраўднага садыста нават час церпіць.

80. Ствараць паэзію з аглядкай на будучых чытачоў — усё адно што займацца любоўю перад камерай. І тое, і гэтае — працэс інтымны.

81. Гучней за ўсіх пра сябе заяўляюць няздары ды немаўляты. І тым, і гэтым няма чаго па сутнасці прад'явіць свету, акрамя сваіх прэтэнзій.

82. Мізантроп-гуманіст у стадыі рэцыдыву, як правіла, адасабляецца...

83. Сталенне — гэта як дзіцячая інфекцыя: чым пазней надараецца, тым цяжэй працякае.

84. Адзін у полі не ваяр? А з кім ваяваць у полі, калі ты ў ім адзін?

85. Найлепшы ў свеце міратворца той, каму ўдалося прымірыць сябе з сабой.

86. Якая ж гэта ўсё-ткі рэдкасць — абсалютны гумарыстычны слых!

87. Ля вытокаў любой, самай глыбакадумна сфармуляванай матывацыі заўсёды ляжыць самае звычайнае чалавечае «хачу!»...

88. Калі мы добра ставімся да чалавека, то загадзя выпісваем індульгенцыю кожнаму прусаку ў яго галаве. Затое калі чалавек нам непрыемны, кожная божая кароўка будзе набываць абрысы скарпіёна.

89. Як пасмяяліся б класікі, даведайся яны пра тое, што ім даследчыкі творчасці інкрымінуюць!

90. Навучыць пісаць вершы — гэта ўсё адно што навучыць палётам у снах: ты альбо лётаеш, альбо не.

91. З некаторымі людзьмі пераходзіш на «ты» так натуральна, як у дзяцінстве абдымаў свайго любімага плюшавага мішку. А з іншымі — быццам на тонкі лёд ступаеш: так і чакаеш, што яшчэ крок — і правалішся ў халодную ваду...

92. Непакоіцца аб тым, што пра цябе падумаюць навакольныя, — гэта ўсё адно што шукаць прыязнасці ў персанажаў уласнага сну. Гэта твой сон, твой свет, тваё жыццё!

93. Я ведаю толькі адзін спосаб сустрэць родную душу: не насіць масак.

94. Над родным дахам і хмары — сонца.

95. Заплюшчы вочы і паглядзі назад. Што ты там бачыш? Правільна, нічога. Гэта і ёсць тваё мінулае...

96. — Воля, праявіся!
— А кава?
— А без кавы аніяк?
— А без кавы мяне няма.

97. Не ўсё тое хоку, што 5-7-5.

98. Чытаць замежную літаратуру ў перакладзе — усё адно што замяняць матчына малако адаптаванай сумессю.

99. Любыя словы, сказаныя на наш адрас, нічога не вартыя, калі мы не збіраемся прымаць іх на свой кошт. Галоўнае, памятаць, што цану заўсёды прызначаем мы самі і нам самім выбіраць, колькі плаціць.

100. Дакранулася ўчора да мінулага — адмарозіла рукі... і душу...

101. У самым сэрцы свайго асабістага Сусвету, тут і цяпер, усе мы шчаслівыя.

102. Дзякуй мне, што ёсць ты ў мяне!

103. Фальшывыя людзі як фальшывыя купюры: пакуль не даходзіць да справы, і тыя, і гэтыя абсалютна бяскрыўдныя.

104. Адасабленне — умова развіцця. Развіццё — гарантыя поспеху і ўмова жыцця.

105. Сапраўдны сябар, нібы гарсэт на кітовым вусе, у любой жыццёвай сітуацыі дапаможа трымаць спіну роўна.

106. Не карміце галубоў памяці зярнятамі пшаніцы, якая яшчэ не ўзышла. Не жывіце мінулым.

107. Жывучы будучыняй, мы ўвогуле не жывём, а толькі ўвесь час рыхтуемся да жыцця.

108. Жывучы марамі ды мроямі, мы сілкуемся будучыняй, брудзім у цяперашнім і патанаем у мінулым.

109. Мяне заўсёды прыгнятала тая акалічнасць, што людзі не здольныя на якасныя змяненні асобы. Але я ўсё адно працягвала на гэта спадзявацца. Пакуль раптам не прыйшло ўсведамленне, што я ж таксама не змяняюся, калі працягваю верыць у гэтую іх здольнасць!

110. Ёсць людзі, якім нельга прабачаць. Нельга, і ўсё! Нават калі ў душы вы даравалі і адпусцілі, ніколі — чуеце? — ніколі не паказвайце ім гэтага! Для вашага ж уласнага душэўнага спакою, камфорту, бяспекі, калі жадаеце. Для іх жа духоўнага росту. Нельга, і ўсё! Таму што мае рацыю Аляксей Талстой, і «дабра за зло разбэшчанае сэрца / Ах! не даруе»...

111. Спакой — гэта гарантыя поспеху і крытэрый слушнага кірунку. Калі вас трасе, а ціск зашкальвае, гэта азначае, што вы не маеце рацыі, нават калі ўпэўненыя, што выступаеце за справядлівасць, адстойваеце свае правы ці імкнецеся да праведнай мэты.

112. Нас прыцягваюць моцныя асобы зусім не таму, што мы захапляемся іх вытрымкай і сілай духу. Усё прымітыўней, і ва ўсім вінаватыя нашы

меркантыльнасць і эгаізм. Бо моцны духам чалавек, які ўмее валодаць сабой, не пакрыўдзіцца на бестактоўнасць і сам яе не дапусціць, не выявіць раздражнення, не стане скандаліць, не змаладушнічае. І, што немалаважна, не абцяжарыць нас просьбай аб дапамозе, але ў той жа час ніколі не пакіне нас у бядзе. Моцныя зручныя і карысныя, як кандыцыянер у спякоту і як парасонік у непагадзь. На мой погляд, было б сумленней захапляцца гэтымі прадметамі ўжытку замест таго, каб спяваць дыфірамбы сіле, цярпенню і высакароднасці манераў «камфартабельных» людзей.

113. Ёсць Людзі-Сусветы, меркаванне якіх для мяне важней за шэпт меркаванняў сотняў тысяч астэроідаў...

114. Найбольш даўгоў у таго, хто лічыць, што яму ўсе павінны.

115. У жыцці няма ніякай пэўнасці, ніякай канкрэтыкі, ніякіх гарантый. Таму нічому не варта здзіўляцца, нічым не трэба абурацца, ні ў чым нельга быць цалкам упэўненым. Усё амбівалентна да хаосу, усё змяняецца палярна і на раз. І гэтае меркаванне таксама.

116. Чым менш саўдзельнікаў ва ўспамінах, чым больш эпізодаў мінулага захоўваецца толькі ў тваёй — і больш ні ў чыёй! — памяці, тым больш ілюзорным і ненадзейным здаецца свет, тым больш самотным сябе адчуваеш...

117. Сапраўдная любоў заўсёды ўзаемная. Ва ўсім. Любая. Калі я люблю ў табе паэта, значыць,

і ты любіш паэта ўва мне. Калі я люблю ў табе пачвару, значыць, ты таксама любіш пачвару ўва мне. Калі ж я люблю твой свет, а ты любіш мой, то нашы светы злучаюцца ў адзіны бясконцы Сусвет са мноствам узаемных любовяў-сонцаў!

118. Пакуль была відушчая, раз-пораз сустракала ў горадзе знаёмых. Аслепла — і горад рэзка абязлюдзеў...

119. Тое, што вы пра мяне думаеце і кажаце, у сутнасці не мае да мяне ніякага дачынення. Бо гэта вашы словы і думкі, і вам цяпер з імі жыць...

**Уладзімір Чараухін**

# Сэрца свету

*Вершы*





Бэз закаханы ў травень
Кожным зялёным сэрцам свайго лісця.
Бэз прызнаецца ў каханні
Хорам усіх сваіх ліловых вуснаў

*2013*

## Хоку

Падару букет
Серабрыстых дзьмухаўцоў
Маёй пяшчоты.

*2015*

## Царскасельская статуя
## (пераклад з рускай мовы верша Ганны Ахматавай)

*Н. В. М.*

Лунаюць жоўтыя лісты
Над сажалкаю лебядзінай,
І ззяюць барваю кусты
Амаль саспелай арабіны.

Бялюткая, як першы снег,
Падціснуўшы прыгожа ногі,
Яна сядзіць, стаіўшы смех,
Не зводзіць позірку з дарогі.

Я адчувала цьмяны страх
Ля гэтай дзеўчыны каменнай,
Гуляла па яе плячах
Бязважка-лёгкае праменне.

І як змагла я дараваць
Парыў тваёй хвалы натхнёнай?..
Глядзі, ёй светла сумаваць,
Такой прыўкрасна агалёнай!

*2016*



Лілея бялее ў абдоймах зялёнага ценю,
Вяночак пялёсткаў аж свеціцца ў цёмнай вадзе.
Мой човен паволі рассоўвае круглае лісце,
Вясло абмінае галоўкі бялюткіх карон.
Не стану ірваць хараство на букет для каханай —
Пакіну зіхоткае дзіва на чорнай вадзе.
Я лепш прывязу сваю любую ў чоўне драўляным
Самой падзівіцца.

*2013*

## Сэрца свету

*Прысвячаецца Д. Дарошка*

Альтанка — у воблаках бэзу.
Дзівосны куток над ракой.
Духмяны вятрыска-гарэза
Суквецці варушыць рукой.

Праменне струменіць скрозь лісце.
На доле дрыжыць светлацень.
Ты помніш, галубка, калісьці
Быў гэтакі ж сонечны дзень?

І толькі паслухай, Танюшка,
Пра што шамаціць гэты бэз!..
Вось гэтыя ж словы на вушка
Шаптаў я калісьці табе.

У нашым адзіным сусвеце
Дрыжыць над вадой гэты кут.
Спытаеш няголасна: «Дзе ты?» —
Адразу ж пачуеш: «Я тут!»

*2012*



Як крыштальную кветку дзівоснай красы,
Чалавека каханага сэрца ў далонях
Скрозь жыццё трэба несці з такой асцярогай,
Каб не стрэсці з пялёсткаў вясёлку расы.

*2009*

## Лойма*

Вазьму сякеру я — і ў лес.
Там буду стукаць да сутоння.
Пасля прылягу на далоні,
Ламачча буду слухаць трэск,
На языкоў дзівіцца скокі
Бяссонным задуменным вокам.
На неба выкаціцца поўня,
Усё залье сваім святлом.
І выйдзе да мяне з кустоўя
Чароўная лясная лойма.
Нячутнай падплыве ступой,
Нахіліцца, кране рукой.
Даткнецца шоўкам валасоў,
Шчакі і растрывожыць кроў!
Убачу ў зрэнках, блізка-блізка,
Цяпла аранжавыя блікі.
Сальюцца вусны ў пацалунку,

---

* Лойма — паводле беларускай міфалогіі, лясная жанчына-спакусніца.

Грудзей адчую скурай пругкасць.
Гарачыя самкнуцца рукі
На стане: «Не, пастой, галубка!
Вядомы ўсе мне твае звычкі.
Не выслізнеш, падобна знічцы,
З абдымкаў месяца. О-о не-е-е!..
Не пойдзеш, лойма, ад мяне!»

*2007*

## Азярніцы

Россып зіхотак, блішчыць Зорны Кол*.
Спіць азярына і пушча наўкол.
З-за аблачын паказалася поўня,
Шухнула ззяннем малочным, халодным.
Ад чаратоў, між лілеяў чароўных,
Сцежка прабегла зіхоткая, роўная.
Раптам яе патрывожылі вілы,
То з глыбіні таямнічай усплылі
Стайкай, пабраўшыся разам за ручкі,
Вадзяніковы гарэзныя ўнучкі,
Каб пагуляць колькі часу на волі,
Покуль зара не дзьмухне на вуголле.
І пачалося: смех, пырсканне, віск.
Лес закрактаў, скасавурыўся ўніз.
Згледзеў у хвалях рухавыя спіны,
Вырачыў дуплы і веі-галіны,

* Зорны Кол — беларуская народная назва Палярнай зоркі.

Шырай расплюшчыў, замёр, не рыпіць —
Хто ж гэта дзіва такое праспіць?
Доўга ці мала іх доўжыўся вэрхал —
Ды прытаміліся, выйшлі на бераг.
Селі ў кружок на бялюткім пясочку,
Косы выкручваюць нібы сарочку.
Ветрык спыніўся, прыкмеціўшы іх,
Ссунуўся ў травы, ікнуў і прыціх.
З неба данеслася ціха: «Авой» —
Поўня хітае сівой галавой:
«Што ж за мужчыны — і гэты туды ж!
Хоць не вылазь ты дзяўчынкам з вады!»
Пруткія, гнуткія нібы лазіна,
Косы зялёныя коцяць па спіне.
Голас празрысты і смех малады
Срэбру падобны крынічнай вады.
Гора, о гора табе, чалавек,
Як набрыдзеш ты ў ліхую часіну
На азярніц зорнавокіх мясціну!
Іх чарадзейнай забраны красой,
Выйдзеш бязвольна з-за схоўных кустоў.
Дзеўкі абдымуць, залашчаць нябогу —
Лепшае ночы не будзе ні ў кога!
Толькі... Абвесціць зара новы дзень —
Знойдзеш спачын ты ў глыбокай вадзе.

Доўга над возерам рэха звінела,
Нават калі яшчэ трохі віднела:
Вёскі далёка і пеўні далёка.

Толькі калі запалалі аблокі,
Кінулі гулі свае азярніцы
Ды падалей ад нялюбай Дзянніцы
Вёрткімі рыбкамі ў хвалі нырнулі
Ды пад карчом у прадонні паснулі.

*2006, 2016*

## Яблынька

Яна стаяла ў зялёным строі пасярод вечаровага
саду,
Чароўная і летуценная,
І бледны маладзік пацалаваў ёй па старым звычаі
высокія грудзі.
Галантны шляхціц са срэбнай шабляй даўно ўжо
пакінуў баль,
А шчокі паненкі гараць у вечаровым змроку,
І вочы блішчаць ярчэй за начныя росы!
Шэпт прыдворных яблынь далятае нібыта
здалёку...
Заўтра ён прыйдзе ізноў!

*2015*

# Срэбная калыханка

*Прысвячаецца Дар'і Дарошка*

Між аблокаў ззяе серабрысты твар.
Патанае ў казцы сцішаны абшар.
Засыпае снегам поўня ўсё наўкол,
Засыпае срэбрам дах, і плот, і дол.
Спі, мая галубка, ціхім светлым сном.
Ходзіць снег па даху срэбраным катом.
На замёрзлых шыбах расцвілі сады:
Папараць іскрыцца, ружы са слюды.
Між крыштальных яблынь ходзяць гарцукі.
Падыдзі да коней, дай ім хлеб з рукі.
Чуеш ты, ці чуеш у паветры смех,
Лёгкі і празрысты, быццам срэбны снег?
Спі, мая галубка, серабрыстым сном.
Ходзіць снег па даху срэбраным катом.
Хутка прыйдзе ранак, зазірне ў вакно —
Золатам і барвай палыхне яно!
Казытну я промнем мой любімы нос:
— Прачынайся, сонца, я чайку прынёс!

*2014*

## Заецў сон

Як у пятніцу да цешчы на бліны!
А ў чацвер зяць бачыць казачныя сны.
Блін пшанічны з маслам першым бачыць ён —
Пракаўтнуў і не стрымаў шчаслівы стогн.
Блін жытнёвы са смятанкай змёў другім —
Каб не сон, то заспяваў бы зяць Яўхім.
Трэці, грэчневы макнуў у жоўты мёд —
Зяць у сне вуркоча, быццам ласы кот.
Абудзіўся ён на досвітку ад сноў —
Пуп трашчыць ад тых прымроеных бліноў!

*2017*

## Вуж*

Ведаю, што глыбака ўва мне,
Бы ў гушчэчы лесу векавога,
Дзе заслана ўсё кілімам моху,
На сагрэтым сонцам валуне,
Галаву на кольцы ўсклаўшы думна,
Скрозь крыніцы хуткае бруенне,
Вуж глядзіць, як homo неразумны
Пылам напакоўвае кішэні.

*2007*

* Паводле беларускай міфалогіі, вуж — сімвал мудрасці.

# Меч-рака

## Балада

Звінеў, спяваў кавыль пад капытамі.
Гуляўся вецер з грывамі, хвастамі.
Спявала сэрца цемніка старога.
Ляцела цьма без шляху, без дарогі.
Наперадзе туманяцца абшары,
Што схіляцца пад капыты татараў
І зведаюць уладу іх рукі!
Ды вылецелі коні да ракі.
І блiснуў жах у цемніка ў вачах.
Вясёлы шал у іх прывяў, зачах.
Рачная плынь ляжала перад імі,
Нібыта меч на дарагім кіліме.
Адчула сэрца цемніка ўдалога,
Што гэты меч ляжыць перасцярогай,
Мяжой між дзікім полем і лясамі,
Мяжой між кавылём і каласамі.
Адолеў стэпаў сын раптоўны страх.
Ды гэта проста рэчка ў чаратах!
Нашто трымцець перад вадой звычайнай,
Калі ў яго паўсвету за плячамі?
Татары з коньмі рэку пераплылі,
А там чакаў іх князь
З вялікай сілай...

І сеча лютаю была, пяялі стрэлы.
І дзіды з хрустам праціналі целы.

Забіты цемнік, цьма яго палегла —
Ніводнай жменькі ў дзікі стэп не збегла.
Суціхнуў гром і енк, замоўклі гоні.
Пагойдваюцца ў хвалях трупы коней.
Рака, нібы напоенае джала,
Заваленая целамі ляжала.
Татараў пахавалі пад курганам
Улучна з іх старым, няўдалым ханам.
Ды не сышлі яны ў татарскі рай —
Адпомсціў ім крывёй заліты край:
Пакінуў іх заходзіцца ад смагі.
І слухаюць зялёныя абсягі,
Як енчаць цені, цягнуцца да хваляў.
Ды Меч-рака ля вуснаў іх без жалю
Ператвараецца ў сталёвае лязо,
Абмытае мядоваю расой,
І рэжа ім бясплотныя далоні —
Такім быў лёс чужынцаў беззаконных!

Сышлі ў нябыт чародкаю вякі,
Паболела курганаў ля ракі.
Яна іх шчыра ўсіх папераджала,
Мячом бліскучым на шляху ляжала.
Ды нібы ўсім намазаны быў мёдам
Лясны свабодны край з яго народам!
І лезуць, лезуць цьмы цераз раку,
На радасць растлусцеламу круку,
Каб скон знайсці на берагох яе.
Вада бяжыць, іскрыцца і пяе,

А галасы шасцяць між чаратамі,
І жвір змяіцца ссохлымі ратамі:
— Піць-піць!..

*2017*

## Ліцвінскі пегас

Не ведаю, што за праява такая:
Чаму беласнежныя крылы майго пегаса
Ператварыліся раптам у скураныя?
І чаму гэтыя крылы так жудасна выюць?
І потым, мой пегас ніколі не смярдзеў потам!
Цяпер мне здаецца, што іншых пегасаў на нашай
зямлі не было —
Нашыя коні носяць не на Парнас,
А ў мінулае.

*2013*

## Курапаты*

Сыходзяць снягі і на ўгрэтых узлесках,
Адна за адной зацвітаюць пралескі.
А ў лесе ля Менску, ва ўрочышчы болю
Таксама струменіцца сонца скрозь голле,
Цалуе і песціць жаўтлявы пясочак,
Нібыта да костак прагрэць яго хоча!

---

* Курапаты, кураслепкі — дыялектная назва белых пралесак.

Трапечуць, як свечкі, бялюткія кветкі —
Бясконцых расстрэлаў маўклівыя сведкі.
Спачылі ахвяры, зарылі іх катаў,
А ў лесе праклятым цвітуць курапаты.
Як белая замець, як вечная памяць,
Якую нікому нічым не запляміць!

*2015*

## На нараджэнне Хрыстова

Радуйся, свет, нарадзілася тое ягня,
Якое шпурнуць ваўкам з валасатымі сэрцамі!
Кроўю нявіннага паспрабавалі сцерці
Выскал звярыны з твару таго,
Хто быў створаны па падабенстве Божым.
Сплыла дзве тысячы год вады, і люстэркі
гавораць,
Што спроба была няўдалай.
Словам, табе заўжды падабаліся ванны з гарачай
крыві.
І да архангелавых труб, здаецца, яшчэ так
далёка.
Можа, ва Ўсявышняга знойдзецца яшчэ адзін
сын?

*2015*



Напаўзлі чарадою хмары —
Адляцела Жар-птушкай мара.
Да яе цяпер, быццам да сонца!
Пехатой не адолець бясконцасць.
Я гляджу на халодныя зоры,
І мяне атуляе горыч...

*2014*

## Чорнае сонца
### (пераклад з рускай мовы верша Дар'і Дарошка)

Чорнае сонца ўзышло па-над домам.
Стала ўсё раптам чужым, незнаёмым.
Клёны і ліпы, праспекты і скверы
Перакруціла без ладу, без меры.
Чорнае сонца лунала ў відзежах,
Перабірала дарогі бязмежжа.
Чорнае сонца палала над намі
Ззяннем адчайным, чорна-барвяным,
Вострым і грозным, смяротным, як джала,
Высмактаць, знішчыць усё паграажала...
Чорнае сонца — пагібельнай прорваю —
Пашчу ашчэрыла па-над галовамі.
Зжэрла, расплавіла свет даляглядаў.
З сэрцам уласным цяпер я не ў ладзе...
Новае сэрца вачыма бяздоннымі,

Чорна-барвянымі, ледзьве знаёмымі
Горад разглядвае дзікі, расплаўлены,
Неба нязвыклае з пашчай разяўленай.

*2016*



Гаворыць душа, калі вусны маўчаць —
Захоўвай маўчанне і слухай,
Што вечная хоча табе падказаць
Нячутна для іншых, на вуха!

*2007*



Хвалюецца, ходзіць бязважкі падол.
Марская танцоўшчыца ў чорным убранні
Танцуе самотна ў падводным маўчанні.
Ні руху, ні дыху — ўсё мёртва наўкол,
Бо гэтая паннaчка — скат-хвастакол.

*2006*



Я чую подых Цішыні.
Яна са мною пры агні.
Мы не гаворым ні аб чым,
Мы проста разам і маўчым.

*2007*



Гаспадыня-зіма ў ледзяных завушніцах
На парозе частуе крыштальнаю чарай
Крынічнай вадзіцы паветра марознага.
Вып’ем з удзячнасцю!

*2014*

## Вецер прынёс мне здалёку
## (пераклад з рускай мовы верша Аляксандра Блока)

Вецер прынёс мне здалёку
Песні вясновай намёк,
Недзе празрыста, глыбока
Неба адкрыўся краёк.

У неабдымным блакіце,
Прыцемках блізкай вясны,
Вылі мяцеліцы дзіка,
Плавалі зорныя сны.

Ціхенька, цьмяна, глыбока
Плакалі струны мае.
Вецер прынёс мне здалёку
Звонкія песні твае.

*2013*

## Лютаўскі дождж

Лютаўскі дождж пазіраў у вялікім здзіўленні
На гразкую глебу, на боты з пушыстым падбоем,
Што крочылі цугам па ўскрайку бяздоннага неба.
А людзі глядзелі ў здзіўленні на лютаўскі
дождж:
Дарослы — з трывогай, а хлопчык — з агнём
апантанага,
Той яўна стараўся ўвабраць у сябе гэты дождж,
Каб выплюхнуць потым яго на дзядулеў мальберт
З гразюкай, разлівам, пушыстым падбоем
на ботах
І, самае важнае, з тонкай бязважкай калінай
Пад плоймай маленькіх, чырвоных, як жар,
парасонікаў.

*2015*

## Дождж

Пахне дажджом у паветры,
Першым вясновым дажджом.
Саланавата-вільготны
Водар ягоны разліты
Між гарадскіх камяніц.
Вецер шпурляе ў мяне
Прыгаршчы дробных дажджынак.
Дух у грудзях замірае,
Соладка сэрца шчыміць!

Хмурныя вочы прахожых
З-пад парасонаў цікуюць
За дзіўнаватым хлапцом,
Што сярод шэрасці нуднай,
Лужын і бруду ступае
Золкаму ветру насустрач,
З яснай дзіцячай усмешкай
Твар падстаўляе дажджу.

*2007*

## Зорны аазіс

Ноч ідзе, пастукваючы кіем,
Па бязлюднай чуйнай цішыні.
Цень двароў, самотныя агні,
Крокі, нетаропкія, цяжкія.

Там трывожна хмурыцца мужчына,
Тут — жанчына... Горад ціха спіць.
Ноч дае засмяглым душам піць,
Ноч дае кароткі адпачынак.

Прыйдзе дзень, узніме хмары пылу.
Караван пацягнецца далей.
Покуль ззяе ў небе Вадалей —
Спіце, людзі! Піце, піце сілу!

Ноч ідзе, пастукваючы кіем...

*2011*

## Шматколернасць

Тысячы гукаў, як лёгкія рукі,
Бягуць па сцяне.
Крокі і рэха сардэчнага стуку
Навокал мяне.
Бэзавы звон, лёгкі смех, быццам з інею,
Радасны ўскрык,
Нібы ў маўчанні бяздоннага сіняга —
Сонечны блік.
Фарбы бягуць па сцяне і зліваюцца
Ў казачны дзень.
Ціха між імі плыве і ўсміхаецца
Ўсцешаны цень.

*2013*

## Палёты ў сне

*Прысвячаецца Д. Дарошка*

Я сяджу на халодным карнізе,
Пазіраю на горад унізе.
Пазіраю на сонныя гмахі,
На залітыя месяцам дахі.
На пустыя бязлюдныя сцежкі
Пры святле серабрыстай усмешкі.
Ах, як добра, як хораша спіцца!
Ах, як хочацца неба напіцца!
Пакружыць у міжзорным абшары,

Дзе жывуць чалавечыя мары.
Удыхнуў на ўсе грудзі бязмежжа,
Паглядзеў на далёкую вежу,
Дзе фігурныя стрэлкі застылі,
І — расправіў бясплотныя крылы.

*2009*



Па тонкім шкле над прорвай чорнай
Брыдзе жыццё.
Празрысты след на сцежцы зорнай —
І забыццё.

*2009*

## Журавы

У небе высокім, празрыстым, халодным
Скрозь сонца, як подых, далёкі, свабодны,
Нібыта званічны праносіцца крыж...
Ліецца журботны струменісты кліч.
Праносяцца птахі адзін за адным.
Услед ім ад комінаў сцелецца дым.
З гнязда, зруйнаванага часам і болем,
Не маючы сіл на змаганне ўжо болей
І лекам абрыдлым прамовіўшы: «Не!»,
З прачыненай фортачкі ўгору імкне

Душа чалавечая ў строй жураўліны,
Каб разам у вырай адправіцца з клінам.

*2007*

## Пытанне з пытанняў

Раскаяння слёзы палёгку прыносяць душы...
А як жа быць мне? Ты, разумная кніга, скажы,
Калі я забыўся, як слёзы салёныя ліць!
Няўжо і далей будзе гэтак, як зараз баліць,
Калі без вады не прымае раскаяння Бог?..
Я морам бязмежным разліўся б, калі б толькі
мог!..

*2007*

## Пярсцёнак Саламона

Пярсцёнак Саламона на руцэ
Вяшчуе ў дзень шчаслівы: «Гэта пройдзе».
Жыццё падобна зменлівай рацэ.
Няшчасцю — той жа лёс: «І гэта пройдзе».

Купайся ў промнях сонечных, калі
На галаву яны з блакіту льюцца!
Пі, як нектар, свой міг, бо кавылі
Вось-вось прад буры подыхам сагнуцца!

Калі раўнуць грымоты над табой,
Глядзі спакойна ў вочы непагодзе,

Дазволь разгледзець ёй пярсцёнак свой.
Маланка высвеціць: «І гэта пройдзе»!

*2007*

## Вочы і неба

Блукаюць па зямной паверхні людзі.
Іх вочы паўтараюць колер неба.
У яснае надвор’е ззяюць сінню,
Свінцова-шэрыя — у навальніцу.
Але між іх бываюць і такія,
Чый колер не мяняецца ніколі.
І там, дзе аб’яўляюцца яны,
Наадварот — святлеюць вочы неба.

*2007*

## Страх

Страх — гэта няпройдзеныя дзверы.
У праёме невядомасці — змрок ашчэрыўся
зверам.
Вымотваюць нервы, высмоктваюць сілы
Жудасці вілы*.
Дзідай упёрся ў спіну пагляд.
Страшна спыніцца і азірнуцца назад,
На дзверы.

---

* Вілы — кругі (арх.). Віламі па вадзе — коламі па вадзе.

Страшна сустрэцца з насмешлівым позіркам
звера
Вачыма.
І зусім немагчыма,
Немагчыма, а трэба,
Каб не засціла неба,
Павярнуцца да цемрадзі
Тварам
Дый пазмагацца з гнятлівым цяжарам.
Адолець дрыготку ў каленях і...
Уперад,
Хадою пантэры.
Крок праз парог — перамога.
Трубіць адбой хрыплы рог.
За спінаю грукаюць створкі з размаху.
І болей
Ні змроку,
Ні звера,
Ні страху.
Нічога.
Да далягляду прастуе дарога.

*2006*

## Цёмныя ночы восені
## (Паводле аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха»)

Дзяўчына з дзівоснымі косамі
Маўкліва глядзіць у камін.
За вокнамі — ночы восені,
Цёмныя ночы восені
І шолах старых ялін!

А цемра жыве, палохае...
Здаецца, спявае рог?
Здаецца, мярцвяк галёкае?!
Зайшлося выццё далёкае!
Куды адвярнуўся Бог?!

За шыбамі дрэвы чорныя
Сцяной абступілі гмах...
У дзеўчыны вочы чорныя,
Нібыта віры азёрныя,
І ў зрэнках — застылы жах.

Стаіць, як струна напятая,
Апошняя ў скрыпцы струна.
І ноч гэту струнку кратае,
Глядзіць, як дрыжыць за кратамі
Наструненая вясна.

*2012*



Стомлены вецер у восеньскім парку,
нібы сівы дворнік у зацёганай світцы,
ціхенька пасвістваючы сабе пад нос,
мяце па сцяжынках сухою галінкай
меднае лісце.

*2014*



Цёмная зялёная алея.
Як заўжды, мой закуток пусты.
На галінцы кветачка бялее,
Гушкаецца ў промнях залатых.

Не чутно ні галасу, ні тлуму.
Цішыня, нібы рачная плынь,
Абдымае думкі мае, думы
І нясе паволі ў далячынь.

*2014*



У вазе крыштальнай кляновае лісце.
Духмяны напой грэе сэрца і рукі.
Апошні праменьчык, празрысты, агністы,
Разліў у пакоі санатныя гукі.

На аркушы чыстай маўклівай паперы
Ляжыць у цярплівым чаканні аловак.
Лунае няўлоўнае, па-за памерам,
У зыбкіх малюнках разлітае, слова.

Глядзяць праз акно задуменныя вочы
На горада восеньскую панараму:
На сквер, на людзей, што сцяжынкаю крочаць,
На першы ліхтар на слупе каля крамы...

*2008*

# Дзіцячыя вершы



Танюшка-лапавушка
Трымае ў жменьках вушкі,
А ўсмешлівы мароз
Куснуў яе за нос.

*2015*

## Коцікі

Пушысценькія коцікі
Задзерлі ўгору хвосцікі,
Абселі голле вербнае.
У сэрцайку — жуда!

Навокал страхі страшныя,
Навокал дзіва дзіўнае:
Бліскучая, блакітная,
Сцюдзёная вада.

Паспагадайце коцікам,
Пушыстым шэрым хвосцікам —
Вазьміце ў дом галіначкі,
У светлы закуток!

І потым вы заўважыце,
Як коцікі адважацца
І высунуць на вуліцу
Зялёны язычок!

*2015*



Разваліўся на пясочку тоўсты кот.
Ледзь паблісквае бурштынавае вока:
І чаго б яму ляжаць на санцапёку?
Вунь, за курамі цікуе, абармот!

*2014*



Дробны дождж͏ык галапяты
Скача ў лужыне заўзята.
Гэтых лужын так багата,
Што дажджу не хопіць пятаў!

*2014*

# Мастак

У каждого города — свои художники...

*Д. Дорошко. «У каждого города — свои поэты...»*

Вуліцы, нібы шэрым шоўкам, ахутаныя мяккім шолахам драбнюткай восеньскай імжы. Людзі — дзіўныя птушкі: захапляюцца гарачым сляпучым ліпеньскім днём і каўтаюць таблеткі ад ціску; млеюць ад свежасці кастрычніцкага дажджу і раз-пораз адбіваюцца ад насмарку, як я. І тым не менш сёння я зноў на вуліцы, пад дажджом. Часты-часты дотык мноства драбнюткіх прахалодных кропелек да твару — як бальзам для маёй гарадской душы! Я нетаропка крочу па Веткаўскай. Удыхаю пах мокрай зямлі і дрэваў. Услухоўваюся ў align="left"рознагалосую музыку дажджу: у мяккі шолах сценаў, высокі звон вадасцёкавых труб, тахканне карнізаў, няроўнае бубненне бляшанага брыля над ганкам кавярні. Фарбы, так, нязыркія, найшырэйшая гама шэрага ва ўсіх адценнях — рай для графіка-пейзажыста. Адзіная яркая пляма на ўсёй вуліцы — гэта мой чырвоны балонневы дажджавік. У сваіх шпацырах пад дажджом я ніколі не хаваюся пад парасонам — мне даспадобы панібрацкае плясканне кропляў па плячах. Што ж да лужын, то якая ж гэта асалода — скародзіць іх літымі «берцамі»! Навошта ж насіць абутак, які не здольны засцерагчы як след ад самай звычайнай рэчы ў нашых шыротах?!

Я нікуды не спяшаюся — ніякіх тэрміновых спраў наперадзе няма. Іду, засунуўшы рукі ў кі-

шэні, ды ўбіраю скрозь вочы і вушы акварэльныя краявіды майго горада. Павольнымі глыткамі ўдыхаю, смакую ягоны, трошкі меланхалічны, паэтычны настрой. І здаецца, я нават чую радкі, што блукаюць у яго галаве. Блукаю сярод вуліц і мрояў, і паглыбіўся ў іх так моцна, што спахапіўся толькі тады, калі знячэўку высветліў, што ледзьве не спатыкнуўся аб чалавека, што сядзеў на кукішках пасярод тратуару. Я рэзка спыніўся і перапрасіў. Чалавек не звярнуў на мяне ніякай увагі. Ён сядзеў на краю велізарнай лужыны і засяроджана працаваў: змешваў на драўлянай палітры фарбы і акуратна наносіў іх на ваду доўгім пэндзлем. Побач, проста на мокрым асфальце, ляжала пляскатая скрыня з мноствам скамечаных цюбікаў. І вакол гэтай сцэны ў паветры лунаў востры водар шкіпінару. Я замёр, як стаяў, і, здаецца, нават на хвіліну забыўся, як дыхаць. Шырока расплюшчанымі вачыма разглядваў гэтую адначасова будзённую і неверагодную карціну: ну падумаеш, мастак працуе на вольным паветры, ну падумаеш, распісвае пры гэтым лужыну! Ашаломленая свядомасць прагна ўбірала ў сябе ўсе драбніцы гэтай дзеі. Я бачыў, як кроплі дажджу барабаняць па спіне мастака, абцягнутай шэрай балонняю, па ляжачым на спіне злямчаным ад вільгаці хвасце, назіраў за лёгкімі пасамі белай рукі, сачыў, як на паверхні лужыны ад руху пэндзля застаецца доўгі яркі мазок, як побач з ім імкліва кладзецца другі — іншага

адцення, як яны неўзаметку знікаюць. Часам мне ўдавалася ўхапіць на гэтым незвычайным «палатне» праблiскі таго, чаго на дадзены момант побач не было: бачыў пранізліва-блакітнае неба, доўгі бот з чорнай скуры, нечую вузкую спіну. Гэтыя відзежы змяняліся так хутка, што ў мяне трохі зарабацела ўвачччу. Каб даць ім адпачынак, я зноў засяродзіўся на самым мастаку. Некаторыя з гэтай брацііі не любяць, калі прахожыя назіраюць за іх працай, некаторыя не супраць і пабалбатаць з выпадковым назіральнікам. Гэты ж, у шэрай куртцы і з доўгім хвастом, праігнараваў мяне, быццам я абсалютна «не засланяў яму сонца».

Нямая сцэна цягнулася даволі доўга. Нарэшце я наважыўся парушыць творчую цішыню быццам бы слушным і ў той жа час найбязглуздым пытаннем:

— Перапрашайце, э-э, шаноўны! Навошта вы распісваеце гэтую лужыну? (Ніколі, ніколі не гаварыце жывапісцу з пэндзлем у руках, што ён малюе! Яны толькі пішуць!)

Рухі мастака не замарудзіліся ні на імгненне. Скончыўшы мазок, ён прыязным тонам патлумачыў:

— Для таго, каб у лужыне былі адлюстраванні. Калі я не намалюю іх — яны не з’явяцца і вада ў лужыне будзе шэрая і нямая, як атынкаваная сцяна побач з вамі.

Гэтае квадратнае сцвярджэнне ніяк не захацела змяшчацца ў маёй круглай галаве, і я збянтэжана ўдакладніў:

— Гэта азначае, што без вас адлюстраванні ў гэтай лужыне не з'явяцца?! Зусім-зусім?

Той згодна кіўнуў, не адцягваючыся ад палітры, на якой змешваў фарбы:

— Але! Зусім-зусім. Ніводнага. Я павінен загадзя напісаць усе тыя рэчы, што прахожыя ўбачаць у гэтым люстэрку. Бываюць такія заклапочаныя людзі, што дзень пры дні бягуць, ніколі не адрываючы вачэй ад бруку. Ім распісаныя лужыны, прынамсі, неабходныя для таго, каб яны хаця б зрэдчас, хаця б мімаходзь маглі ўбачыць неба.

Хвіліну я памаўчаў,ператраўліваючы такую нечаканую думку. У мяне ў галаве нават мільганула адваротнае дзікае дапушчэнне, што ўсё можа быць зусім наадварот, і навакольны свет тут, па гэты бок лужын, мае рэчы і колеры толькі таму, што іх адлюстраванні ўжо напісаныя такім вось мастаком на вадзе. Але гэтую думку я абачліва пакінуў пры сабе.

— А як жа іншыя лужыны? Вы таксама іх распішаце?

— Ужо распісаў. Пакуль ліе дождж — я павінен распісаць усе лужыны ў гэтым горадзе.

— І вы паспяваеце да ўсіх лужын?

— Не, я не чапаю тыя лужыны, на якія ніхто не зверне ўвагі, і тыя, побач з якімі, пакуль яны не высахнуць, не апынецца аніводнай здольнай да назірання істоты, — праз паўзу ён з усмешкай у голасе працягнуў. — Там, дзе вы, паэты, ходзіце, даводзіцца маляваць нават тое, чаго няма.

— У іншых гарадах лужыны размалёўваеце таксама вы?

— У кожнага горада свой мастак. Усё, тут я скончыў. Да сустрэчы!

У наступнае імгненне я апынуўся побач з лужынай ўжо ў адзіноце. Нейкі час я стаяў і бяздумна разглядваў ў матавым ад тысяч падаючых кропелек люстэрку тонкія галінкі маладзенькага, амаль бязважкага дрэўца, што расло побач, глядзеў, як аблятаюць з іх апошнія лісточкі, пакідаючы яго зусім аголеным. Узняў вочы — лёгкая жоўтая сукенка канчаткова саслізнула і ляжала пад тонкімі зграбнымі нагамі, пакрытымі гладкай чорнай карой. Гнуткія рукі млява плылі ў паветры перад усмешлівым тварам дрыяды пад звонкую музыку ветру і дажджу. Гэта быў летуценны танец на месцы. І яна абсалютна не бянтэжылася мяне. Чаго бянтэжыцца паэта?

«Там, дзе вы, паэты, ходзіце, даводзіцца маляваць нават тое, чаго няма», — мільганулі ў маёй галаве словы мастака.

*2015*

# Сабака сустрэчы

Скажыце, вы бачылі на вуліцы рудога сабаку? Сімпатычнага такога, з вялікім пушыстым хвастом? Ніколі? І нават ні разу не чулі пра яго? Шкада. Пра яго ўся моладзь нашага горада ведае! І ўсе ў горадзе наогул ведаюць, бо ўсе некалі былі маладымі. Гэта незвычайны сабака. Ды якое там, ён адзіны такі ў цэлым свеце! Легенда нашага горада! Што ж у ім такога? Ён... Як бы гэта ямчэй выказацца?.. Дух. Добры чацвераногі дух нашых ціхіх кляновых вуліц. Якой ён пароды, я вам не здолею сказаць — прыгажун ды і ўсё. Але яго многія ў нас бачылі. Толькі вось паказваецца ён на вочы своеасабліва... Яго можа згледзець на ходніках любы хоць трохі ўважлівы чалавек. Любы, але не той, якім пушысцік у дадзеную хвіліну займаецца. Так, у яго, нашага рудзенькага, ёсць свая важная справа. Дакладней, спраў у яго ў горадзе прорва. Чым ён займаецца? Злучае людзей разам. Як? Ды проста! Нейкім незразумелым чынам ён аказваецца ў патрэбным месцы і цікуе за дваімі, за тымі, каму адно з адным будзе ў жыцці лепей за ўсё, і калі бачыць, што людзі вось-вось гатовыя прайсці міма, спяшаючыся па сваіх справах, і занятыя сваімі думкамі, тады ён забягае так, каб апынуцца раўнюсенька пасярэдзіне, і звонка брэша. Але я чуў ягоны брэх і бачыў яго тысячу разоў. Я — мастак. Мне паложана бачыць больш за астатніх. Дык вось, становіцца ён паміж людзьмі, брэша. І людзі выныраюць са

сваіх мрояў і азіраюцца на гук. Ды выходзіць так, што пазіраюць адно на аднаго і ўсміхаюцца. Вось так вось. Натуральна, гэтыя двое не заўважаюць «зводню»! Кхе-кхе!.. Але могуць убачыць іншыя прахожыя. У нас у горадзе ўжо даўно разабраліся, што да чаго, і ведаюць сапраўдную цану словам: «Мы раптам убачылі адно аднаго ў натоўпе», ці: «Я раптам убачыў яе». Здараецца, канешне, што людзі праходзяць міма месца іх самай галоўнай сустрэчы. Ну, але ў гэтага ёсць адна толькі прычына — нячуласць чалавечая: не чуюць яны сабакі. І тут ужо трэба ім пакладацца ў пошуках сваёй палавінкі выключна на свае ўласныя сілы. Праўда, сабачка, калі своечасова сцяміць, у чым справа, — падбягае да аднаго і кліча праз усю вуліцу другога, каго палічыць больш чуйным, і той азіраецца. Калі ж людзі, нягледзячы ні на што, усё ж такі размінуліся — «вушастаму-хвастатаму» даводзіцца чакаць наступнага зручнага выпадку і клікаць ізноў. М-да!.. Калі рудзенькі сыходзіць з месца такой няспраўджанай сустрэчы, на яго шкада глядзець: лапы за лапу чапляюцца, хвост апушчаны, мызачка панурая. Ды і цьмянее ён неяк, быццам на яго ўсе залевы, што на год пакладзены, адразу выліліся.

Ён не толькі моладзь злучае! Ён яшчэ дапамагае гараджанам дзяцей сваіх знаходзіць. Выходзіць бацька позна ўвечары свайго недарасля шукаць, які недзе забавіўся. А куды яму ісці, куды сунуцца? Вось тут-то ён, родненькі, і патрэбны ізноў. Збіраецца мужчына і ідзе «куды вочы глядзяць».

Як жа! Нічога яго вочы не бачаць! Сабака проста пад нагамі ў яго бяжыць, хвастом памахвае, азіраецца — кліча, значыцца. Ну і знаходзіць папаша сваю «крывіначку» ў якой-небудзь альтанцы, у вясёлай кампаніі, за некалькі двароў ад дома. А спытай у яго: «Ці бачыў ты сабаку, што ўвесь час пад нагамі ў цябе круціўся?» — плячамі паціскае: «Не бачыў», — але ўсё разумее. Ну ды ладна. Здараецца, што людзі ў нас назусім губляюцца і не знаходзіць іх ніхто. Ну дык руды сабака ў нас на вуліцах хоць і жвавы, але ўсяго адзін, а не цэлая зграя — вось у яго сваіх чатырох лап на ўсё пра ўсё да канца і не хапае. Што ж тут паробіш? Нельга ж нам, людзям, усё на аднаго рудога сабаку з пушыстым хвастом перакладваць! Самі павінны са сваімі справамі разбірацца! А што ў нас у дадатак яшчэ і памочнік такі слаўны ёсць, дык і дзякаваць Богу!.. Ці яшчэ каму-небудзь.

*2013*

## Аблічча Сусвету

Як заўсёды, Сведка сядзеў ля свайго возера і неадрыўна пазіраў на ваду. Цёмная, амаль чорная ад двухсотгадовага сядзення пад адкрытым небам рука вольна ляжала на калене, і цёплыя промні ранішняга сонца ласкава гладзілі яе. Паміж застылых у вечным жэсце пальцаў стала бачна, як заскакаў, закруціўся на дробнай рабізне гурт вясё-

лых сляпуча-зыркiх рыбак. А пад iмi мякказзяе пяшчотна-ружовым ранiшняе неба (дзень будзе светлым i спякотным), i зусiм глыбока-глыбока — пара лёгкiх, як лебядзiныя пёрайкi, аблачынак. Ён спакойна i не мiргаючы назiраў, бо гэта быў ягоны адзiны занятак. I позiрк яго быў адкрыты для ўсяго, як возера ля ног. Спакой, i цiшыня, i бяздумнае сузiранне. Зрэдку ён, канешне, думаў — ён умеў думаць. Але зараз гэта не патрэбна — трэба толькi глядзець i заўважаць, як лёгкi пэндзаль часу хуткiмi няўлоўнымi штрыхамi пiша на вадзе адзiную сваю карцiну, пастаянна перакрываючы i перакрываючы свежымi мазкамi былую сваю працу. I менавiта дзякуючы гэтаму Сведка ведаў: усе рэчы рухаюцца. Час быў выдатным мастаком, выключным майстрам, i незразумела, што ён шукаў, куды клiкала яго натхненне, але iдэi круцiлiся ва ўяўленнi, а холст быў усяго адзiн. I таму кожнае iмгненне гэтага вялiкага тварэння было бясконца дарагiм у гэтай сваёй мiмалётнасцi настолькi, што шкада было б мiргнуць. Але бронзавыя павекi без веек заўсёды шырока расплюшчаныя, i гэта добра!

А яшчэ да возера прыходзiць Яна! I гэта самае цудоўнае! У якi момант яна ўзнiкае над верхнiм краем люстэрка, яму нiколi, пры ўсёй-то ягонай назiральнасцi, не ўдавалася ўлавiць. Але раптоўна позiрк ягоны нiбы раскрываецца, i ён бачыць перад сабой жаночую постаць у доўгiм свабодным строi — кожны раз новым. I яшчэ, да капялюшыка заўжды прымацаваны лёгкi вэлюм, якi пастаянна варушыцца i таму перашкаджае як след разгледзець твар.

Гэтым разам госця, здалося, доўга ўжо стаяла пад паверхняй вады. Круглы ліст гарлачыка з белай зорачкай на краёчку крыху засланяў яе. Сёння на яго знаёмай была вузкая ўльтрамарынавая сукенка з цемнаватымі разводамі, што плаўна ўзбягалі да ног. Заўважыўшы, што ён назірае за ёй, жанчына павіталася прыязным кіўком капялюшыка і зноў знерухомела. Яна прыходзіла да возера штодня, каб доўга, не варушачыся, пазіраць на яго, дазваляючы яму колькі заўгодна разглядваць яе. Ні разочку не падышла да яго сюды, на гэты бераг, бо тады ён не мог бы яе бачыць. Жанчына заўсёды спынялася на тым беразе, насупраць, і ён быў удзячны ёй за гэтую далікатнасць. У яго грудзях было цёпла! Ён не міргаючы, не адводзячы позірк ні на імгненне глядзеў на яе адлюстраванне, любаваўся кожнай рыскай яе істоты, бо пэндзаль мастака, ён бачыў гэта, пастаянна дакранаўся да яе вобліку, і кожная секунда была новым адкрыццём. Жанчына запаўняла ўсю яго ўвагу, яна была ўсім. Неба і сонца, аблокі, ракіты і гарлачыкі — усе яны былі ёю! У ёй былі ўсе фарбы сусвету, у ёй была ўся сутнасць гэтага сусвету!

Жанчына і Сведка ніколі не размаўлялі адно з адным. Іх сяброўства было маўклівым сяброўствам позіркаў. Гэтага было цалкам дастаткова. Але сёння ён вырашыў звярнуцца да яе сам. Ён даўно ўжо хацеў убачыць яе вочы — вэлюм перашкаджаў яму. Ён ведаў чалавечую мову. Ён бачыў, як размаўлялі

людзі, што адбіваліся ў ягоным люстэрку. Ён даўно ўжо навучыўся гэтаму (за такую-то прорву часу!). Вось толькі ні разу не давялося паразмаўляць услых. Некаторы час ён збіраўся з духам. Нарэшце вусны яго варухнуліся, няўклюдна і ад таго надзвычай старанна вымаўляючы словы, прыдуманыя для істот зусім іншых, крохкіх і цёплых:

— Дзень добры... Н-найчароўнейшая, — тыя цяжкімі кроплямі ўпалі ў цішыню, спужаўшы рэха. Госця зацікаўлена варухнулася:

— І табе дабрыдзень, — і ізноў чакальна замерла.

— Я д-даўно хацеў... Па-папрасіць цябе, — яго словы павольна, адно за адным, цяклі ў гулкай пустэчы. — Пад-нímі, калі лас-ка... Вэлюм... Я хацеў... — вусны перасталі слухацца і ён, спалохаўшыся, што не скончыць, пасля некалькіх безвыніковых спроб, нарэшце, дагаварыў. — Тваё аб-блічча.

— У мяне? — жанчына пакратала капялюшык. — У мяне няма ніякага вэлюму. Я ніколі яго не насіла.

— П-перашкад-джае разглед-дзець...

— Ах вунь яно што! — суразмоўца няпэўным рухам паказала сабе пад ногі. — У мяне і сапраўды няма ніякага вэлюму. Табе, напэўна, перашкаджае разгледзець мяне вось гэтая рабізна на вадзе. Супакой ваду, спыні вецер, і ты зможаш разгледзець мой твар.

— Але... — здзіўленню яго не было межаў. — Як жа я з-змагу... Вецер?! Я нават... шыю разагн-нуць... Не здольны!

— І тым не менш гэта ў тваіх сілах, мой дружа. Я не жорсткая. Я гавару табе праўду. Паспрабуй! Гэта ж тваё возера і нічыё больш!

Сонца ўзнялося вышэй. У гарадскім садзе з’явіліся людзі. Паветра, як патрывожаная вада, затрымцела ад дзіцячага смеху, плачу, ад гаманы дарослых. Гарадскі сад напоўніўся штодзённай мітуснёй і тлумам. Людзі прахаджваліся па сцежках, гутарылі адно з адным, проста дыхалі водарам квітнеючых дрэў і траў, нават каля возера спыняліся! Але ніхто не быў настолькі назіральным, каб прыкмеціць незвычайны, нават для гэтага харошага, напоўненага лёгкім варушэннем дзянька, абсалютны спакой люстраной паверхні і цень усмешкі ў складках вуснаў бронзавага Сведкі на беразе.

*2011*

## Песня для скрыпкі

Аднойчы ў нашым горадзе пасяліўся вялікі скрыпач. Музыка быў надзвычайны. Іншага такога, мусіць, і не было на абсягах усёй Беларусі. Калі ён граў, то зала замірала поўнасцю. Скрыпка звінела ў абсалютнай цішыні, і рэха ў зале станавілася асабліва глыбокім ад водгуку, што спараджаў спеў струн у душах мноства замёршых слухачоў. О, якая гэта была скрыпка! Чарадзейная! І зрабіў яе самы сапраўдны чараўнік з залатымі рукамі недзе ў заморскай краіне. Кажуць, што скрыпач прадаў сваю

кватэру, каб купіць яе. Ён любіў яе і песціў, амаль як жанчыну, і скрыпка адказвала яму ўзаемнасцю. Душа музыканта і чароўны зграбны інструмент гучалі пад скляпеннямі канцэртнай залы дуэтам. Яны гралі натхнёна і самазабыўна, аддавалі сябе дазвання музыцы і слухачам.

Мноства шчымлівых і вясёлых песень, прыгожых санат нарадзілі яны для гараджан. І разбегліся, рассяліліся гэтыя мелодыі па дамах горада, ўліліся ў яго жыццё, сталі яго песнямі, яго душой.

Канечне ж, разам са славай прыйшло да маэстра і багацце. Музыкант купіў вялікі прыгожы дом з садам. Мусіць, тыя нядобрыя языкі, што гаварылі аб глыбіні любові маэстра да сваёй скрыпкі, мелі рацыю, бо час мінаў, а ён так і не жаніўся, не заводзіў сям'і. Ён цудоўна пачуваўся сам-насам са сваёй скрыпкай і сваімі мелодыямі. Ужо і свецкія красуні адступіліся, пакінулі ў спакоі пачцівага, далікатнага, але непрыступнага халасцяка.

І вось аднойчы ён прачнуўся светлай месяцовай ноччу. Запаліў свечку на кававым століку. Доўгі час стаяў ля расчыненага акна, ўдыхаў п'янкое начное паветра, услухоўваўся ў дыханне ночы, узіраўся ў яе глыбокія вочы, і ноч кранула мяккімі прахалоднымі пальцамі яго душу, быццам струну скрыпкі. Дзесьці глыбока-глыбока пад сэрцам нарадзілася шчымлівая і бязважкая, як серабрыстая начная аблачынка, мелодыя. І рукі музыканта з такой жа пяшчотай і далікатнасцю, як толькі што рукі ночы даткнуліся яго, узнялі з аксамітнага

ложа смуглявую заморскую прыгажуню. Кончыкі пальцаў пагладзілі шаўкавістую паверхню лакіраванай дэкі, прайшліся па яе вытанчаным абводзе. Цень смыка хутка слізгануў па сцяне, і пасярод пакоя нарадзіўся празрысты і мімалётны, як месяцовы блік, кароценькі гук. Ці то быў ён — ці то не было яго? Зацурчала высокая крынічная нота, пальцы музыканта плаўна паплылі па грыфе. Ён усё жыццё граў дзеля людзей, дзеля свайго сэрца, што стукалася, патрабавала песні, граў у рэшце рэшт дзеля самой Музыкі, служыў ёй ля пюпітру, як жрэц ля алтара, але гэтай ноччу ён стаў граць сваёй скрыпцы, ён складаў новую музыку, якую яшчэ не чулі чалавечыя вушы, якую яшчэ не чула старажытная ноч, і ў гуках новай мелодыі ён выказваў усю глыбіню ўдзячнасці гэтай жывой драўлянай істоце. Такіх прызнанняў не чула яшчэ аніводная жанчына і ніколі не пачуе. І скрыпка, як заўсёды, адгукалася яму з такой чуйнасцю, быццам бачыла душу гаспадара лепей за яго самога, падхоплівала яго жаданне, як вецер ластаўчыны крылы, і несла далей. Жывы інструмент удзячна адгукаўся на кожны дотык пальцаў, лавіў струнамі палёт смыка, быццам яны былі адзіным цэлым. Яны ўдвох стваралі гэтую музыку бяздоннага сэрца, музыку бяздоннай ночы, і мусіць ім удалося даткнуцца сваёй песняй да сэрца самога Сусвету.

Скрозь шаты замоўклага саду да месяца ўзляцела і абарвалася звонкая нота, падобная на шчаслівы крык. Крык адгучаў і заціх. Ізноў цішыня агарну-

ла сад, хлынула праз расчыненае акно ў азораны мігатлівым святлом свечкі пакой. Апусцілася долу рука, што сціскала смык. Халодны павеў астудзіў гарачы твар музыканта. Позірк яго праясніўся. Развеялася каляровая імгла свяшчэннай эйфарыі, і вочы яго сустрэліся з бяздоннымі, як ноч, чорнымі дзявочымі вачамі. Позірку ягонаму адкрыліся цёмныя валасы, рассыпаныя па падушцы, і маленькія грудзі, што бурна ўзнімаліся ў мігатлівым святле амаль дагарэлай свечкі. І ярчэй за гэтую свечку пакой азорвала шчаслівая ўсмешка на тонкім смуглявым твары.

А ў хуткім часе свецкія красуні з раўнівым здзіўленнем даведаліся, што непрыступны скрыпач жэніцца з невысокай зграбнай незнаёмкай, якую дагэтуль ніхто ні разу не бачыў у горадзе, а сумны імпрэсарыя пачуў, што славуты музыкант ніколі больш не будзе выступаць. Шмат заўсёднікаў гарадской канцэртнай залы засмуцілася з гэтае навіны, але што да таго было шчасліваму музыканту і яго скрыпцы?!

У доме пасярод саду цяпер часта звініць чысты высокі голас, падобны на спеў скрыпкі, але чатыры медныя струны тут ужо абсалютна ні пры чым.

Былы скрыпач і яго былая скрыпка больш не нарадзілі на свет аніводнай песні, але нашмат цудоўнейшымі за ўсялякія песні быў шматгалосы дзіцячы віск і тупат, што наваднілі дом і сад вакол яго.

А далёка за морам чараўнік з залатымі рукамі стомлены і задаволены ўстаў з-за варштата, і за-

ходзячае сонца азарыла светла-карычневую дэку зграбнай новай скрыпкі, якой мроілася ў сне свая песня.

*2015*

## Яшчэ адзін дождж

Я быў пабуджаны познім шэрым ранкам і доўга ляжаў, услухоўваючыся ў шоргат, булькание і тупаценне за акном. Зноў дождж. Колькі іх у гэтым месяцы да нас прылятала?

Калі я падняўся і зірнуў у акно, то ўбачыў, як шэры голуб узмахвае крыламі і, муркаючы нейкую песеньку, кружыцца за шыбай, тупае лапкай па гулкай бляшыне. Я зірнуў далей і ўбачыў шэрага голуба на асфальтавых дарожках і дахах прыпаркаваных машын, на карнізах дома насупраць.

Мне спадабаўся бляск яго пёрак, шоргат мяккіх крылаў і вясёлы танец.

І я не стаў праганяць яго з карніза.

*2012*

# Ружовая птушка пацалунку

Усе людзі нястомна палююць на сінюю птушку. Я — не: захоча — сама прыляціць. Я не палохаю яе прагавітым выразам вачэй. Не, я не палюю на сінюю птушку ўдачы! Я лаўлю, вы можаце пасмяяцца, птушку ружовую. Ружовую птушку пацалунку. Вы сцепанеце плячыма: «Вось дзівак! Знайшоў на каго паляваць! Падумаеш, рэдкасць якая. Ды гэтых птушак навокал — поўны лес!» Так, вы маеце рацыю. Гэтых птушак шмат. І, прытым, у большасці даволі рахманы характар: спакойна ідуць у рукі. А ад некаторай так і зусім не адмахацца — гэта калі, наадварот, яна палюе на вас.

А мая птушка, мая ружовая птушка, — не такая! Дзічыцца. Вядома, яна ведае, што яна мая. І нічога супраць гэтага не мае. Яна заўсёды побач: балбоча безупынку, лопае што-небудзь ці маўчыць — усміхаецца, але ў рукі даецца не кожны раз: «Не хо-чу!» — фыр-р, і на галінку села. Яна ў мяне такая. Да яе асаблівы падыход патрэбны. Які? Ар-тыс-тыч-ны! Гэта складана. Бываюць дні, калі я асабліва няўдачлівы. Мабыць, праз занадта сквапны бляск у вачах. Вось так-то! І таму гэты занятак для мяне — далікатнае і хітрае паляванне.

Перш за ўсё я прыкідваюся, што мне няма да яе ніякай справы, ну зусім аніякай! І падпільноўваю зручны момант. А потым... Цап-царап! Бывае і «фыр-р», але ўжо калі атрымалася!!! М-м-м! Асалода.

Вусны маёй мілай мяккія, ружовыя... І смачныя. Зараз, напрыклад, мандарынавыя. Гэта таму, што я, нягоднік, напаў на яе падчас сняданку.

Але... Усё добрае калі-небудзь заканчваецца. І, як на маю думку, занадта хутка. Маленькія далонькі рашуча ўпіраюцца мне ў грудзі, і яна, адвярнуўшы твар убок, пераводзіць дух: «Усё, до-о-осыць!..» І галасочак яе адурманены-адурманены!

Бачыць яе ў падобным стане для мяне — асаблівая асалода! Гэта сапраўдная перамога. І кожная такая перамога вартая асобнага апісання.

Вось такая яна — ружовая птушка пацалунку! Мая непрыручаная і дзікая, мая хуткап’янеючая! І я кахаю яе. І яна мяне таксама.

*2010*

# Праўда пра Поўню

## Казка для дарослых дзяцей

Усе людзі бачылі ў начным небе цудоўнае загадкавае свяціла. Так-так, я пра поўню. Некалі яе называлі добрай начной багіняй, і мелі рацыю, а тое, што бачылі ў небе, было яе светлым абліччам. У нашы дні яе больш прынята называць нябесным целам, і гэта, як ні дзіўна, па-свойму яшчэ бліжэй да ісціны, хаця толькі часткова. Чаму? Ды таму, што нашым вачам адкрыта не ўсё цела Поўні, а толькі яе частка, а менавіта яе грудзі. Так-так, ме-

навіта грудзі — і нішто іншае! То левая, то правая. Калі вы хоць крыху назіральныя — абавязкова гэта заўважыце. і не трэба тут жа сарамліва адводзіць вочы ад неба. Зрэшты, я бачу тых, хто тут жа ўтаропіўся уверх з падвоенай цікавасцю. Вось ім я раскажу, што ведаю.

Так, Поўня — гэта начная багіня нашага свету. Мы бачым рэчы не зусім такімі, якія яны ёсць насамрэч, але гэта для такіх маленькіх казюрак, як людзі, не дзіўна. Наогул, калі вы хочаце ведаць, наш свет змяшчаецца на адным лісточку гарлачыка ў сажалцы. Гэтая сажалка знаходзіцца ў садзе, у які так любіць выходзіць па начах Поўня. У гэтым садзе расце шмат цудоўных дрэў. Мы іх не бачым: яны схаваныя цемрай. Але на іх галінах малюсенькімі ліхтарыкамі ззяе мноства светлячкоў. Здагадаліся, як мы іх называем? І Поўня выходзіць у сад, каб палюбавацца іх халодным ззяннем, падыхаць свежым начным паветрам. Зрэшты, не толькі таму. Гэта таксама толькі частка праўды, самая нявінная, для вушэй брата-Сонца, гаспадара сажалкі, гарлачыкаў з круглым лісцем, чарадзейнага саду і, наогул, усяго-ўсяго. Другая частка праўды заключаецца ў тым, што Поўня ходзіць у сад на спатканні да свайго нарачонага — Змроку. Яго мы побач з нябеснай дзевай ніколі не бачым, таму што ён, у адпаведнасці са сваім імем, чорны з ног да галавы. Чорнае яго адзенне, непраглядна чорны твар і чорныя яго доўгія валасы. Але ён добры і пяшчотна кахае сваю сяброўку, і яна адказвае яму ўзаемнасцю.

Дык вось, у часіну, калі ўладарнае Сонца, стаміўшыся ад дзённых клопатаў, адпачывае ў сваім доме, у гэтых дваіх кожную ноч — любоўнае спатканне. Мы такія нясціплыя, што глядзім на іх ва ўсе вочы, але хто звяртае ўвагу на казюрак на лістку гарлачыка? Змрок, нахіліўшыся, шэпча ёй на вушка пяшчотныя словы, а сам, тым часам, цішком адводзіць край расшытага срэбрам і перлінамі плашча, у які захінутая нябесная панна, цалкам захопленая ціхім шэптам. І паволі-памалу позірку адкрываюцца круглыя грудзі прыгажуні. Зрэшты, Поўня праз нейкі час звяртае ўвагу на дзеянні гарэзлівай рукі сябра і гэтак жа павольна, далікатна вяртае плашч назад.

І вось аднойчы, калі яна зусім заслухаецца, — мы ўбачым сярод дрэў і светлячкоў дзве поўні.

*2015*

## Мухамор

### Казка для дарослых дзяцей

Жыў-быў мухамор! Выдатны мухамор з цудоўным чырвоным капялюшыкам! І больш за ўсе на свеце ён любіў тры рэчы: курыць ўсялякія там траўкі, чытаць Кастанеду і думаць аб сваім жыцці. Вы скажаце, што аб жыцці разважаюць толькі няўдачнікі, але не — гэта быў надзвычай удачлівы мухамор. Ён жыў на вяршыні самага высокага па-

горка, ля каранёў самага высокага ў лесе дрэва, у атачэнні самых найбялюткіх паганачак. І вось, адным цудоўным ранкам, сядзеў мухамор ля каранёў свайго дрэва, папыхкваў святаяннікам* і думаў аб паўнаце свайго жыцця. І вырашыў ён, што для самай поўнай паўнаты яму не хапае, бадай, толькі аднаго: пайсці прагуляцца! Але як гэта зрабіць, калі ўсе нармальныя мухаморы ўсё жыццё стаяць на месцы? І наогул, усе нармальныя зроду стаялі і стаяць на сваім месцы: дрэвы, кусты і трава — усе заўсёды там, дзе яны ёсць, а рухаюцца адны толькі ненармальныя. І мухамор вырашыў, што ён выправіцца ў падарожжа сілай сваёй думкі, бо вядома, што ўсе нармальныя мухаморы падарожнічаюць па свеце выключна сілай розуму.

Прыйшоўшы да такой светлай высновы, мухамор вырашыў выкурыць яшчэ адну люлечку святаянніку. Выкурыў, устаў і пайшоў.

*2013*

## Абдоймы

Птушка ляцела па небе. Вельмі доўга. Усё жыццё. Ляцела, задуменна гледзячы наперад. Павольна ўзмахвалі крылы: уверх-уніз, уверх-уніз. І сэрца было поўна да краёў палётам, і бяздоннай сінню, і яшчэ нейкім дзіўным пачуццём, якое невядома

---

* Святаяннік — зверабой (бат.).

калі пасялілася ў ім. Пачуццё гэта было настолькі дзіўным і невытлумачальным, што птушка вельмі рэдка і цьмяна чула яго голас.

А далёка ўнізе, за лёгкай смугой вышыні, ляжала мора. Зіхоткая ў промнях сонца, бясконцая люстраная роўнядзь. Нябачная, таму што на яе ніколі не звярталі ўвагі: адзіны жыхар неба глядзеў зусім не туды.

Але аднойчы ён глянуў уніз. Гэта здарылася раніцай. Сонца ярка свяціла. У птушкі быў добры зрок. І далёка-далёка, яшчэ далей, яна ўбачыла крылаты сілуэт. У птушкі быў вельмі добры зрок. І яна ўбачыла, што незнаёмы, роўна ўзмахваючы крыламі, ляціць, павярнуўшыся тварам да яе, і глядзіць ёй проста ў вочы. Ашаломленая сустрэчай, баючыся зрабіць што-небудзь не так, птушка плыла ў паветры як і раней, не набліжаючыся і не аддаляючыся, толькі прагна глядзела. Незнаёмы, відавочна, таксама быў моцна здзіўлены. Ён махаў крыламі і ляцеў разам з ёй уверх, да сонца. А потым насланнё нібы спала, і тое дзіўнае, няпэўнае пачуццё раптам стала зразумелым, і так моцна сціснула сэрца, што Сонца нават зажмурылася на імгненне.

І яны адначасова выгнулі крылы і кінуліся ў абдоймы адно да аднаго скрозь Бясконцасць, што сцялася ў імгненне!

*2010*

# Гульня аблíччаў

У перасячэнні ўсіх шляхоў, на скрыжаванні ўсіх вятроў знаходзіцца дзіўны крышталь, спрэчкі аб якім не сціхаюць з тае самае пары, як у вачах людзей запалілася святло думкі. Бо варта сабрацца разам некалькім людзям, каб абмеркаваць яго, як хутка высвятляецца, што або кожны з іх памыляецца ў ім, або ўсе яны кажуць пра рознае, бо хто б ні ўзяўся апісаць крышталь — яго аповед аказваўся не падобным ні на адзін папярэдні. І толькі адзінае нязменна: дзе ляжыць прадмет спрэчак.

Вось ранішняе сонца, якое толькі-толькі ўзнялося, кладзе пяшчотна-ружовы водбліск на серабрысты бясформенны кавалак горнага крышталю, маланка адбілася ў высокім абсідыянава-чорным авальным люстэрку, цень луня, што праплываў уверсе, выгнуўся на сапфірава-сінім шары, на малахітавы зялёны куб апусцілася белая мятлушка — і вось так заўжды! Прыкладна так выглядаюць сведчанні відавочцаў майго дзіва-каменя. Кожнае імгненне, кожны рух паблізу выклікаюць у ім самы жывы водгук і ён тут-жа змяняецца, ператвараецца ў нешта іншае.

Вось таму ніхто не можа нават толкам уявіць сабе, як жа ён выглядае насамрэч, не кажучы ўжо пра тое, які ён у самай сваёй сярэдзіне.

І, цалкам мажліва, толькі ў адзіным месцы, на самым краі свету, у маленькім свяцілішчы, зробленым у чэраве Сямікаляровай гары, ведаюць праў-

ду. Захавальнік выслухае гэтую казку. Паправіць, перасуне некалькі свяцільняў ля іскрыстага сэрца, амаль непрыкметнага праз сваю празрыстасць, усміхнецца і скажа, любуючыся зменлівай гульнёй зыркіх вясёлак на сценах:

— Гэта ты.

*2011*

## Месяцовая сцежка, або Прыпавесць пра ісціну

Ва ўсе часы людзі аднолькавыя. Якія яны зараз — такія яны былі і ў цемрыве часоў, недасяжных для нашага позірку. Чалавецтва, гэтае неспакойнае племя, заўжды мітусілася: будавала і руйнавала, нараджала і забівала. Людзі ваявалі заўсёды і пры ўсякай нагодзе, і асабліва люта, калі браліся высвятляць, чыя Ісціна, чый бог больш праўдзівы і ў якой вопратцы яму належыць пакланяцца, якім шляхам да яго лепш ісці. І ў кожнага народа, што там, у кожнага натоўпу было ўдосталь жадаючых павесці ўсіх астатніх сапраўдным шляхам.

І вось аднойчы, калі неба ад бясконцых пажараў стала шэрым, а паветра зрабілася горкім, як палын, — чатыры чалавекі ў чатырох канцах свету, стаміўшыся ад усяго і асабліва ад гучнагалосых правадыроў, што паказвалі кожны ў свой бок, узялі ў рукі свае дарожныя кіі і рушылі ў шлях,

каб адшукаць, нарэшце, гэтую самую ісціну, каб яна сама ім адкрылася.

Нямымі ценямі рухаліся яны скрозь вар'яцтва населеных чалавекам земляў і праз цішу бязлюдных мясцін. Ішлі яны праз пяскі і горы, праз лясы і стэпы, і паўсюдна іх вочы і сэрцы былі шырока раскрытыя. Але Ісціна маўчала. І, нарэшце, праз некалькі гадоў чацвёра падарожнікаў сустрэліся на пясчаным марскім беразе.

Гэта здарылася адвячоркам. Чалавек з Паўночнага краю, здарожыўшыся пасля доўгага дзённага пераходу, склаў з плаўняка маленькае ўтульнае цяпельца і прысеў побач адпачыць. Неўзабаве з сіняй вечаровай імглы выйшлі астатнія трое і падселі да агню. Усе яны таксама былі змораныя доўгім шляхам. Ніхто з іх не прамовіў ні слова, але сэрцы іхнія пазналі і віталі адно аднаго. Доўга чацвёра шукальнікаў сядзелі вакол вогнішча. Густая сінеча змянілася чарнільнай цемраддзю. І аніводнай зорачкі не было відаць над галавой — іх засланілі аблокі. Дзьмуў і дзьмуў, кіруючыся сваёй начной дарогай, халаднаваты брыз. Роўна і працягла ўздыхалі, накочваючыся на пясок, нябачныя хвалі.

І вялікая ціша затапіла чатыры чалавечыя сэрцы. Яны прайшлі доўгі шлях, адолелі вялікія абшары, каб, невядома навошта, сустрэцца тут. Мора шумела, неба маўчала, аранжавы агонь бесклапотна патрэскваў, людзі захоўвалі нерухомасць. Яны чакалі. Яны чакалі адказу на агульнае для іх усіх пытанне: «Якім шляхам лепш ісці?» Чакалі ад мора, ад ночы, ад цішыні, ад вогнішча, адзін ад аднаго.

Чалавек, які сядзеў тварам да мора, убачыў, як цяжкія аблокі далёка над морам распаўзліся і ў прарэсе зырка зазіхацела поўня. Срэбная сцежка працягнулася да яго і загайдалася на хвалях, і як быццам прагучаў бязгучны ўладарны покліч. Чалавек падняўся і моўчкі рушыў па пяску да лянівых хваляў, ступіў на ваду і... Пайшоў. Ён ішоў і ішоў далей і далей у мора і задуменна глядзеў сабе пад ногі, на срэбную месяцовую сцежку, і мала-памалу веданне стала прасочвацца ў яго. Ён зразумеў, што на зыбкай роўнядзі, тонкай мяжы паміж двума светамі, сярод атачаючай цемрадзі варта ісці толькі вось па гэтай сцежцы з расплаўленага срэбра і што толькі яна адна здольная стаць апорай для нагі. Ён атрымаў адказ: літасцівая поўня куды як яскрава паказала яму, што ён мае рацыю і што веданне яго праўдзівае, адзначанае вось гэтай срэбнай сцежкай і ён здольны ісці па смяротна небяспечнай хлябі вось па гэтым простым, як страла, зіхоткім шляху.

Потым чалавек ачуўся ад задуменнасці і агледзеўся па баках. Справа і злева ад яго абыякава крочылі па хвалях астатнія трое шукальнікаў. Але як жа гэта?!. Вада ж пад іх нагамі была чорная, як сажа, толькі дзе-нідзе коратка ўзблісквалі імклівыя срэбныя рыбкі. Святло поўні азорвала іх аднолькава натхнёныя твары. І вось у гэты самы момант чалавека наведала сапраўднае адкрыццё: кожны з іх, ступаючы па чорных хвалях, бачыў перад сабой сваю ўласную месяцовую сцежку, нябачную збоку.

*2012*

## Хоку

У люстэрку ваннай
Пудзіла з нажніцамі.
Аўтабансай.

*2015*



Ахінае лянота пяшчотна, ласкава.
Не хачу ні спатканняў, ні ружаў, ні кавы.
Снежань папараць-кветкі малюе на вокнах.
Я жадаю гуляць пад дажджом і не мокнуць.

*2014*

## Металіст

> Рифмоплётство не в чести —
> лучше улицы мести.
> *Дарья Дорошко*

Распатланы дворнік Пеця
Штодня круціць хэві-метал.
Пад пякельны роў і грукат
Шорхае мятлой па бруку.
І аднойчы на світанку
Ён сказаў паэту Янку:

— Рыфмаплётцтва не ў пашане —
Лепш мятлой махаць уранні.

*2015*

## Стрыптыз на лістку крапівы

Не спалося. Накінула куртку і выйшла ў сад. Прайшлася ў самы далёкі закуток. Там у мяне ля самага плота ляжыць цудоўны чурбачок для паэтычных вячорак у кампаніі музы. На гэты раз ніякага нататніка я з сабой не брала. Паляпала па кішэнях — цыгарэт там таксама не апынулася — пакінула іх на лядоўні. Уздыхнула і стала пагля- даць на месяц проста так. Задумалася пра нешта, разглядваючы чорныя сілуэты дрэў з цёмна-сінімі латкамі ў серабрыстую зорачку. Потым мой позірк перамясціўся на рэчы бліжэйшыя, а менавіта на высокае цыбоўе ўладарнай крапівы, на жамчужны бляск начной расы на пругкім лісці. Нешта дзіўнае прыцягнула ўвагу майго мозгу, што свабодна дрэй- фаваў сярод думак, і я абудзілася, утаропілася на бліжэйшы крапіўны ліст, які зацікавіў мяне. Па- сярод найпаўнейшай адсутнасці ветру ён ціхенька пагойдваўся і на ім штосьці варушылася. Да майго слыху даляцеў тонкі звон, быццам ад навушнікаў- »таблетак». Песня ці што? Так, я разабрала словы. Танюткі камарыны галасок галасіў ва ўсю сваю немікронную моц: «Рыфмаплёцтва не ў пашані- і-і — лепш мятлой махаці ўранні-і-і!» Толькі што

ж гэта спеў такі надрыўны?! Я нахілілася наперад і прыжмурылася. Навошта гэта рабіць у начным прыцемку? Але — звычка — што паробіш! Ва ўсялякім выпадку, я згледзела на крапіўным лісце натуральную небывальшчыну: проста пасярэдзіне драпежна-варсістай паверхні, да якой і даткнуцца-то боязна, бадзёра «запальвала» нейкая, ну не сказаць, што мятлушка, скажам так: фігурыстая дзюймовачка з шырокімі крылцамі. Не, ну на самой справе — дзяваха — усё пры ёй, толькі ростам з мой мезенец, ды выкручваецца-то як! О-о-о: сцягнула з сябе нейкае сваё эльфійскае «міні». Ну ё-маё! Я аж папярхнулася! Гэта прыцягнула ўвагу сексапільнага напаўпразрыстага крылатага мезенца, і ён замёр, утаропіўшыся на мяне. Потым у начной нерушы празвінела недаверлівае пытанне:

— Ты мяне насамрэч бачыш?

— Яшчэ як! Я і не ўяўляла, што э-э-э... — я збянтэжылася, не ведаючы, як назваць гэтую істоту, але скарысталася самым блізкім, што круцілася на языку. — Не ведала, што эльфы так могуць.

Кроха прыўзнялася ў паветра, падалей ад крапіўнага ліста, спрытна ўсцягнула назад сваю адзежынку і з асалодай пацёрла нагой аб нагу:

— Мне больш падабаецца слова «фея».

Я звярнула ўвагу на яе рухі і спачувальна спытала:

— Што, свярбіць?

— Яшчэ як! — піскнула фея і спікіравала ў нейкую непрыкметную лужынку. Зрэшты, асвяжыла-

ся яна імгненна і тут жа зноў павісла перад маімі вачыма.

— Гэта ваша народная забаўка — танчыць на крапіве?

— Ды не! Я фея кляновага танцу. Менавіта дзякуючы нам кляновыя лісце ўвосень так прыгожа і плаўна кружыцца ў паветры. Без нас яны-б, як дурні, так бы і плюхаліся наўпрост ўніз. Апусціла лісток на зямлю — ляці наверх, да новага.

— Прыгожа! — захапляюся я. — А яшчэ якаянебудзь праца ў вас ёсць?

— Яшчэ ёсць феі кветкавых усмешак. Апусціцца фея ў астру, і тая становіцца прыгожай-прыгожай. Тады і раса на ёй проста зіхаціць. Без нас, фей, усе кветкі сумныя, непрывабныя, — з гонарам скончыла малая.

— Ну, тады гэта выдатна, што вы ёсць! — вырашыла я. — А на месяцы таксама жывуць нейкія феі? Вунь як цудоўна ён свеціць.

— Не, гэта феі месяцовага святла. Яны жывуць у паветры. Ты глядзіш на месяц скрозь іх, вось табе ён і здаецца прыгожым, а гэта ўсё яны.

— Здорава! — яшчэ раз захапілася я і вырашыла вярнуцца да адной недарэчнасці:

— Ты ж сказала, што танцуеш з кляновым лісцем. Што ж тады ты робіш ноччу ў маім садзе ў самым крапіўным закутку?

Фея ўзвілася высока ў паветра і крутанулася там. Выплюхнула эмоцыі і зноў абрынулася да мяне.

Зрабіла выгляд, што прысела на кукішкі перад маім носам, і душэўна патлумачыла:

— Сёння ўдзень я танчыла ў гарадскім парку разам з астатнімі. Дзьмуў цудоўны вецер. Словам, мы былі ва ўдары! Людзі туды-сюды ходзяць. Ну, любуюцца, вядома, як лісцікі кружацца, але бягуць сабе далей. А тут нейкая мясцовая гарадская паэтка надарылася, рудзенькая такая. Гэтая нікуды далей не пабегла — вочы шырака расплюшчыла і зорыць імі па баках, усміхаецца. А потым, прыкінь, раскінула рукі і закружылася з намі! Праўда, зусім трошачкі. Прыкінь, праўдзівая фея, так?! Уражлівая аказалася. Зацягнула нас сёння ў свой сон, увесь карагод. Ну і адарвалася на славу! Зладзіла сапраўдную кляновую завіруху. Дзве гадзіны змушала нас кружыцца, фантазёрка, замарыліся мы з ёй. Потым уціхамірылася. Я плаўна так апускаю свой лісток проста перад яе чаравікамі. І тут яна на мой лісток глядзіць і гаворыць: «А я станчыла б на гэтым лістку!» — Я, канечне ж, гэтага не сцярпела, я ж з ім сама толькі што кружылася! Падлятаю я ўгору, проста да твару дылды гэтай, трэба сказаць, што паэты часам могуць бачыць нас у сне, падлятаю я да яе і кажу так: «Калі ты на гэтым кляновым лістку зараз пратанчыш — я станцую стрыптыз на лістку крапівы!» — Галасок расказчыцы сумна абарваўся. Я памаўчала трохі разам з ёй, але вырашыла перапыніць паўзу:

— Ну і што здарылася?

— Ды запамятавала я, — віскнуў камар, — што гэта сон! Прайграла я! Вось, — сумна скончыла яна. — Паляцела я ад сораму адпрацоўваць спрэчку на самы канец горада!.. А што, публічнасць мы не абгаворвалі! Думаю, станцую халоднаму месяцоваму святлу так, каб яму горача зрабілася, як маім ступням! Вось! А цябе я ў цыбоўі ад засмучэння не ўгледзела, а ты аказваецца, яшчэ і добрая паэтка: згледзела мяне наяве. Толькі добрыя паэты здольныя бачыць фею наяве.

— Дзякуй, красуня, за камплімент, — усміхнулася я і нечакана пазяхнула. Хацела яшчэ штосьці дадаць, і пазяхнула яшчэ раз, зусім ужо жудасна. Заўважыла, што дух танца адляцеў далей, мабыць, каб не ўдыхнулі незнарок, і вінавата прамовіла:

— Здаецца, час мне і баінькі, а то заўтра, як прыйду ў рэдакцыю, зусім не выспаўшыся, — мой шэф Цімафей — зусім не фея. А тое, што я, як ты кажаш, добрая паэтка, напэўна не перашкодзіць мне запрасіць цябе ў мой сон. Ветру няма. Лісце амаль не падае. Працы няма. Памахай крылцамі ў мяне перад носам, нагадай, што ды як. Пасядзім да раніцы, чаю пап’ём. У мяне ёсць зялёны з сапраўднымі пялёсткамі язміну.

*2014*

# Заўтра

## Пабытава-містычнае апавяданне

Уладзімір Сцяпанавіч Буслаеў вярнуўся з крамы злёгку нападпітку. Сустрэў у гастраноме сябра, з якім не бачыліся больш за паўгода, і вырашыў нагнаць упушчаны час у кафетэрыі. Частаваў Сяргей. Пагаманілі за жыццё, памарылі пра мінулае. Нават як у першым класе настаўніцу на дошцы ў выглядзе Бабы Ягі ў суаўтарстве намалявалі, успомнілі. Абодвум тады перапала. Прыгадалі і як працавалі разам кіроўцамі КамАЗаў. Брыгадзіра свайго, шэльму, нядобрым словам успомнілі. Увогуле, памарылі пра мінулае па-старэчы, як належыць. Заелі бутэрбродамі з нарэзкай парцыённую гарэлачку і разышліся-распаўзліся кожны ў сваю добраўпарадкаваную гарадскую нару марыць ужо ў адзіноце.

Думалася Уладзіміру Сцяпанавічу пра сына Рамана, які на мінулы яго, бацькі, дзень нараджэння ў падарунак мікрахвалёўку на кухонны стол з усім належным у такіх абставінах бадзёрым балаканнем паставіў, інструкцыю ў рамачцы на бачнае месца прысабачыў, ды так і знік на паўгода з жыцця бацькі. Тэлефанаваў яму Уладзімір Сцяпанавіч, тэлефанаваў, ды няма калі Ромку нудныя размовы весці, бацькавы нетаропкія разважанні выслухоўваць: працаваць трэба, жонку Веру забяспечваць. Вось толькі дзіўна, чаго з дзіцём цягнуць? Хочацца ўнука дачакацца. Ды ўсё, вядома, разумеў

Уладзімір Сцяпанавіч і, на сынаў эгаізм з вежы ўласнага пазіраючы, не крыўдзіўся, але ўсё адно неяк тужліва яму аднаму ў двухпакаёвай кватэры жылося. Вось калі яшчэ Рая жывая была... Так вось, у неадчэпных разважаннях ды мроях, і бавіў свае самотныя дні Уладзімір Сцяпанавіч, рана састарэлы шасцідзесяцігадовы мужчына.

А сёння штосьці наогул моташна на душы было. Ці то сустрэча з аднакашнікам развярэдзіла яе, душу гэтую, ці то нарэзка нясвежая аказалася... Успомніўшы строгія забароны свайго ўчастковага лекара ды ўласнага ж страўніка, Буслаеў сумна ўсміхнуўся.

Калі на электронным будзільніку з зязюляй лічбы сталі здавацца не зусім ужо недарэчнымі для сну, Уладзімір Сцяпанавіч сцягнуў з сябе ўтульную фланелевую кашулю і залез пад цёплую коўдру. Як водзіцца, памарыў перад сном пра заўтра, склаў немудрагелістыя планы, а потым заснуў.

Сны Уладзіміру Сцяпанавічу заўсёды сніліся яркія, маляўнічыя, у адрозненне ад шараватай паўсядзённасці старога самотніка. І на гэты раз душа, якой таксама абрыдла аднастайнасць, не падкачала.

Апынуўся ён у цёмнай вільготнай задусе в’етнамскага гушчару, дзе ў маладыя гады выконваў ў складзе абмежаванага кантынгенту інтэрнацыянальны абавязак у дачыненні да братняга камуністычнага народу ў яго барацьбе з капіталістамі. Бег сяржант Уладзімір Буслаеў з поўнай выгрузкай за вузкавокім праваднікам. Мільгалі ў зялёным змро-

ку камлі дрэў, узнікалі і прападалі тут і там зыркія жоўтыя слупы сонечнага святла, што нейкім дзівам прарываліся скрозь зялёныя шаты. Цяжка дыхалі побач хлопцы з ягонага загінулага, зніклага пад казённым грыфам «Сакрэтна» ўзвода. Марш-марш!.. Мясцовасць пайшла ўгару. Бегчы стала цяжэй, але нічога, бывала і горш —ператрываем і зараз.

У звыклы роўны гул дрэў уплёўся іншы. Ён вібраваў нізка і ледзь чутна, амаль вуркатаў, пераплятаючыся з голасам джунгляў. Спачатку на яго ніхто не звярнуў увагі. А потым жывы гул дрэў патануў у гэтым новым гуле і дробна задрыжала, захадзіла пад ботамі гарачая зямля. Што гэта з ёй? Не па вулкане ж бяжым?! Насустрач Уладзіміру, проста яму ў твар разам з траскучым грукатам і вострым смуродам ірвануў пякучы вецер. Сяржант Буслаеў і не заўважыў, як хлопцы кудысьці прапалі ў вакханаліі авіяналёту. Уладзімір бег адзін. Знік некуды і вузкавокі дробны праваднік. Але Уладзімір і так ведаў: у што б там ні было яму трэба дабегчы туды, дзе цяпер трасе і цяжка грукоча.

Раптам зямля моцна падкінула Уладзіміра, быццам надумала скінуць з сябе. Ногі яго адарваліся ад глебы, ён павольна, нібы ў вадзе, праляцеў, куляючыся, і яго шпурнула ў нейкую цясніну. Галіны кустоўя змякчылі падзенне, і ўдару Уладзімір не адчуў. Затое адчуў, што цяпер ён сціснуты гарачай зямлёй. Цяпер трэсла і крычала аднекуль ззаду. А выратаванне было наперадзе. Належала ўсяго толькі прабрацца наперад. Здавалася, што цеснае

вусце прахода вось-вось самкнецца яшчэ мацней і ўжо ніколі не адпусціць яго. Сяржант Буслаеў — ці ўжо не сяржант? — адчуваў, што задыхаецца. Ён праплішчваўся з усяе сілы, хапаўся рукамі, укручваўся галавой і плячыма. Выйсце, паратунак былі наперадзе. Ён адчуваў, што яму трэба толькі выбрацца адгэтуль — і ён абавязкова прачнецца, і нарэшце наступіць заўтра.

Ён паспеў! Зрабіў апошні рывок і адчуў свабоду. Перад затуманенымі вачыма ўспыхнула яркае-яркае святло, і ён закрычаў. Аднекуль збоку нібыта ізноў наляцеў басавіты рокат самалёта. І на гэты раз ён вуркатаў: «Хлопчык. У цябе хлопчык, Верачка. Усё ўжо! Бач, які гарласты! Ну, што ты крычыш? Зараз аддамо маме. Як назавеш першынца, Вера?»

І нейкі дзіўна знаёмы, немагчыма прыцягальны голас адказаў гэтаму рокату: «Мы з мужам вырашылі, калі сын народзіцца — Валодзечка будзе. Як дзядуля, Уладзімір Сцяпанавіч. Вельмі пра ўнука марыў, ды так і не дачакаўся...»

І сонца бліснула ў вочы, і шчасце, неймавернае шчасце цеплыні рук пяшчотных, паху салодкага, голасу мяккага ахінула, заглушыла нядаўні боль, залюляла новага чалавечка, Уладзіміра Раманавіча Буслаева!..

*2015*

# Змест

**Дар'я Дарошка**

**Дыялог з Яно**

**Проза**

**Уладзімір Чараухін**
**Сэрца свету**
**Вершы**

## Дзіцячыя вершы



## **Уладзімір Чараухін**
## **Гульня абліччаў**
## **Проза**

## Татмiр

**Дарошка, Д.**

Д20 Альтанка : вершы, проза / Дар’я Дарошка, Уладзімір Чараухін ; прадм. А. Ананьева. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 140 с.

ISBN 978-985-7180-13-4.

«Альтанка» — трэцяя сумесная кніга літаратурнага сямейнага дуэта Уладзіміра Чараухіна і члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Дар’і Дарошка. Першыя два зборнікі («Не наступайте птице на крыло…» і «Маяк») былі выдадзены на рускай мове. У трэцім аўтары дзеляцца з чытачамі сваімі вершамі, апавяданнямі і афарызмамі на беларускай мове, роднаснай іхняму духоўнаму сусвету.

У кнізе шырока прадстаўлена як асабістая, так і сумесная (пад псеўданімам Татмір) творчасць аўтараў. «Альтанка» прыйдзецца даспадобы аматарам лірыкі, філасофіі і добрага гумару.

**УДК 821.161.1(476)**
**ББК 84(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Дарошка** Дар'я (Чараухіна Таццяна Леанідаўна)
**Чараухін** Уладзімір Васільевіч

# Альтанка

*Вершы, проза*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Віктар Іваноў*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Віктар Іваноў*

Падпісана да друку 14.04.2017. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 8,17.
Ул.-выд. арк. 3,49. Наклад 99 ас. Зак. 164.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.